ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№11 (80)
лістапад 2017 год

CATHOLICNEWS.BY

## Падпішыся на “Каталіцкі Веснік”!

**Кошт падпіскі:**
на месяц – **96 капеек**,
на 3 месяцы – **2 рублі 88 капеек**,
на 6 месяцаў – **5 рублёў 76 капеек**.
Зрабіць гэта можна
ў любым аддзяленні “Белпошты”.

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Дарагія браты і сёстры!
Падпісваючыся на нашу газету,
вы дапамагаеце нам
абвяшчаць Евангелле,
расказваць людзям
пра Хрыста і яго Касцёл.**

## Сустрэча для міністрантаў у Паставах

**Трохдзённая сустрэча была арганізаваная айцамі-сэрцанамі ў пачатку лістапада ў Паставах. Як праходзіла гэта спатканне,** **чытайце на старонцы 8**



## Як узяць шлюб, калі нарачоны – пяцідзясятнік?

**На гэта пытанне адказвае айцец Аляксандр Махнач SP, піяр з Ліды.** **Чытайце на старонцы 13**



## Як распазнаць сваё пакліканне?

**Пра гэта распавядаюць брат Эмануэль Юран, ксёндз Антоній Грэмза, сястра Антонія Тарноўска.** **Чытайце на старонках 8,9,11**



# Пантыфік прыняў Апостальскага нунцыя ў Беларусі

**10 лістапада 2017 г. Папа Францішак прыняў на аўдыенцыі ў Ватыкане арцыбіскупа Габара Пінтэра, Апостальскага нунцыя ў Рэспубліцы Беларусь. Перад гэтым Пантыфік сустрэўся таксама з арцыбіскупам Пэдра Лопэсам Квінтана, Апостальскім нунцыем у Літве, Латвіі і Эстоніі.**

Аўдыенцыя для арцыбіскупа Пінтэра адбылася за дзень да 25-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Апостальскай Сталіцай і Беларуссю. Менавіта 11 лістапада 1992 г. кампетэнтнымі прадстаўнікамі Святога Пасаду і Рэспублікі Беларусь быў падпісаны і ўступіў у сілу адпаведны міжнародны дакумент.

На працягу некалькіх апошніх гадоў адносіны паміж бакамі развіваюцца вельмі дынамічна. Сустрэчы афіцыйных асобаў сталі правілам, а не рэдкасцю, адбываецца ўзаемны дыялог па разнастайных пытаннях, прычым ініцыятыва сыходзіць з абодвух бакоў.

У 2015 г. Беларусь наведваў з афіцыйным візітам кардынал Пьетра Паралін, дзяржсакратар Яго Святасці Папы. У 2016 г. візіт у Ватыкан здзейніў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, у ватыканскіх музеях прайшла беспрэцэндэнтная выстава беларускага іканапісу, былі вызначаны напрамкі супрацоўніцтва ў культурнай сферы.

Важныя падзеі адбыліся таксама на працягу некалькіх апошніх месяцаў. Напрыканцы верасня 2017 г. Мінск стаў месцаў правядзення пленарнага пасяджэння Рады Біскупскіх Канферэнцый Еўропы. 4 кастрычніка ў беларускай сталіцы быў урачыста адкрыты новы будынак Апостальскай нунцыятуры. У цырымоніі інаўгурацыі дыпламатычнага прадстаўніцтва прымаў удзел арцыбіскуп Анджэла Бэчу, субстытут дзяржаўнага сакратара Апостальскай Сталіцы па агульных пытаннях. У межах свайго візіту ў Мінск ён сустракаўся з Міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Макеем.



*Ватыканскае радыё*



# Папа: “Валадарства Божае – гэта не шоу і не карнавал!”

**Валадарства Божае – гэта не прадстаўленне, не карнавал, не тое, што патрабуе рэкламы. Святы Дух, а не душпастырскія планы, робіць так, што яно расце, сказаў Папа 16 лістапада падчас ранішняй св. Імшы ў Ватыкане.**

У сваёй гаміліі ён спаслаўся на пытанне фарысеяў з Евангелля св. Лукі (17, 20-25): “Калі прыйдзе Валадарства Божае?” Святы Айцец адзначыў, што гэта пытанне неаднаразова з’яўляецца ў Евангеллі.

Падобна да таго, як нябачна расце насенне, Валадарства Божае расце сярод нас. Яно схаванае, як каштоўны камень або скарб. “Але хто дае рост гэтаму зерню, хто спрые яго ўзыходу? Бог, Святы Дух, Які ў нас. А Святы Дух – гэта Дух лагоднасці, Дух пакоры, Дух паслушэнства, Дух прастаты”, – заўважыў Пантыфік.

Папа Францішак нагадаў, як Езус тлумачыць, што Валадарства Божае не прыцягвае ўвагі да свайго надыходу, і ніхто не скажа: яно “вось тут або там”. “Гэта не шоу і тым больш не карнавал”, – дадаў ён. “Валадарства Божае не з’яўляецца з пыхай, зазнайствам, не любіць рэкламы: сціпла, схавана – і так расце”, – сказаў Святы Айцец. Ён адзначыў, што такой пакорай характарызавалася Маці Божая.

“Мы ўсе пакліканыя прайсці гэты шлях у Валадарства Божае. Гэта пакліканне – ласка, падораная, якая не купляецца, а даецца выключна Богам. І ўсе мы, ахрышчаныя, маем у сабе Святога Духа.

Які мае адносіны са Святым Духам, што спрые росту Валадарства Божага ўнутры мяне? Гэта добрае пытанне, каторае кожны можа паставіць сабе сёння: ці веру я на самай справе, што Валадарства Божае сярод нас, утоенае або, магчыма, мне больш падабаецца прадстаўленне”, – прапанаваў Папа Францішак.

*Ватыканскае радыё*

# BBC запускает мини-сериал о повседневной жизни монахов-бенедиктинцев



**BBC запускает мини-сериал, в котором покажет повседневную жизнь монахов-бенедиктинцев в трех британских монастырях, сообщает Catholic News Agency.**

Проект расскажет зрителям о тех аспектах жизни монахов, которые обычно бывают скрыты от общественности. Сериал будет посвящен аббатствам Даунсайд (Downside), Бельмонт (Belmont) и Плюскарден (Pluscarden). Их жизнь покажут без всякого закадрового текста, как спокойное созерцание ежедневной рутинной жизни монахов. В саундтрек войдут григорианские песнопения и естественный шум в монастырях.

Первый эпизод, посвященный бенедиктинцам, обитающим в графстве Сомерсет, выйдет в эфир в конце октября 2017 года. Серия, сфокусированная на девизе ордена “Молись и работай” (лат. “Ora et labora”), расскажет о том, как монахи пекут хлеб и устраивают традиционный молитвенный стол.

В дополнение к телесериалу Радио BBC запустит в своем эфире подкасты, посвященные духовной жизни бенедиктинцев.

## История Ордена Бенедиктинцев

Бенедиктинцы – старейший католический монашеский орден, основанный в итальянских коммунах Субиако и Монтекассино святым Бенедиктом Нурсийским в VI веке. После смерти св. Бенедикта в 547 г. основанный им монастырь Монтекассино просуществовал недолго и был разрушен лангобардами в 80-е годы VI столетия (позднее он был восстановлен). Монахи при поддержке Папы Григория I Великого разошлись по разным странам, способствуя распространению устава и идей св. Бенедикта. Вскоре бенедиктинские монастыри возникли в Англии, Франкском королевстве, других странах Западной и Центральной Европы, а к XI веку и в Восточной Европе.

Вклад бенедиктинцев в культуру и цивилизацию западного общества огромен. В эпоху раннего Средневековья бенедиктинские монастыри были главными очагами культуры в Западной Европе. Из школ при аббатствах вышли практически все выдающиеся ученые того времени, в том числе Беда Достопочтенный, Алкуин и др.

В библиотеках при монастырях сохраняли и переписывали древние рукописи, вели хроники, обучали людей. Организовывали ярмарки, оживлявшие торговлю, больницы, где лечили страждущих. Принимая путешествующих, монастыри фактически выполняли роль гостиниц. Многие бенедиктинские монахи, такие как Ансельм Кентерберийский и Петр Дамиан, были видными философами и богословами.

Бенедиктинские монастыри оказали сильное влияние на развитие архитектуры. Первые образцы романского стиля появились в аббатстве Клюни (Cluny), а готического – в аббатстве Сен-Дени (Saint-Denis).

Велики заслуги ордена бенедиктинцев по отношению к музыке, ее истории и теории. Начиная с Папы Григория Великого, почти все значительные деятели, о которых упоминает история музыки, были монахами-бенедиктинцами, а бенедиктинские монахи монастыря святого Галла Ноткер Заика и Туотило стали крупнейшими поэтами и композиторами Европы в эпоху Карла Великого. Вклад бенедиктинцев в Новое время в исследования средневековых текстов и живописи также очень велик.

Главный упор в деятельности бенедиктинцев делается на молитвы, интеллектуальные занятия, религиозное искусство, миссионерскую работу.

*rublev.com*

# 12 изобретений и открытий иезуитов, о которых вы не знали

**Благодаря Обществу Иисуса у нас появились несколько вещей, которые мы в современном мире воспринимаем как должное. Дотошные ученые-иезуиты и их успешная миссионерская деятельность внесли огромный вклад в развитие астрономии, сейсмологии, математики и техники, ботаники, медицины, театра и даже кулинарии.**

### 1. Календарь

Христофор Клавий, SJ (1538-1612 гг.) – известный немецкий математик и астроном. Клавий сыграл важную роль в преобразовании календаря, предложенного итальянским врачом Алоизием Лилия. Григорианский календарь, разработанный Клавием, был одобрен в 1582 г. Папой Римским Григорием XIII и является официальным календарем, признанным во многих странах.

### 2. Гипертекст

Итальянский священник Роберто Буса, SJ (1913-2011 гг.) – один из основателей компьютерной лингвистики. Когда он изучал сочинения Св. Фомы Аквинского, понял, что компьютеры можно использовать не только для чисел, но и для текстов, и убедил в этом Томаса Уотсона, основателя IBM (англ. International Business Machines – крупнейшая фирма по производству программного обеспечения).

### 3. Селенография

Итальянский астроном Джованни Баттиста Риччоли, SJ (1598-1671 гг.) и физик Гримальди Франческо Мария, SJ (1618-1663 гг.) опубликовали в 1651 г. научный трактат "Новый Альмагест"(лат. Almagestum Novum), указав на карте кратеры, лунные моря и другие изображения, что стало фундаментом для современной астрономической номенклатуры.

### 4. Математические вычисления

Жан Шарль де ла Файль, SJ (1597-1652 гг.) – фламандский математик. В его книге Theoremata de centro gravitatis partium circuli et ellipsis (1632) он определил центр тяжести сектора круга.

Андре Таке, SJ (1612–1660 гг.) – еще один фламандский математик, его научные работы подготовили почву для открытия математического анализа.

### 5. Потайная дверь

В 16-17 вв. иезуиты писали сценарии для своих спектаклей и ставили их в своих школах. Считается, что в XVII в. иезуитский учитель изобрел потайную дверь. Кроме того, предполагается, что иезуиты первыми стали использовать занавес для создания фоновых декораций.

### 6. Темпура

В XVI веке, когда миссия иезуитов из Португалии прибыла в Японию, монахи стали жарить креветок, воздерживаясь от мясной пищи в постные дни во время каждого из четырех времен года (англ. Ember Days). Темпура (англ. Tempura) и английское Ember восходят к лат. Quatour Tempora, что значит "четыре времени года". По иронии судьбы (или по Божественному Провидению) сёгун Токугава Иэясу, начавший тогда преследования католиков, умер от переедания темпуры.

### 7. Иезуитский чай (матэ)

В середине XVII в. монахи-иезуиты выращивали дерево – парагвайский падуб – в Южной Америке, делая из него напиток, известный как "эликсир иезуитов", или иезуитский чай (исп. té de los Jesuitas; нем. Jesuitentee). Скорее всего, этот напиток они предлагали местному населению, которое было подвержено алкоголизму. Долгое время этот напиток был запрещен; за его употребление следовало отлучение от Церкви.

### 8. Маракуйя / Страстоцвет

Испанскиемонахи-иезуиты назвали страстоцвет или "цветок пяти ран" в память о Страстях Христовых.

- Копьевидные листья должны были обозначать Копье, пронзившее бок Христа.
- Усики означают плети, которые использовали во время бичевания Христа.
- 10 лепестков символизируют 10 верных апостолов (исключая Св. Петра, отрекшегося от Христа, и Иуду Искариота, предавшего Его).
- Лучевые волокна цветка, которых у него более ста (у каждого цветка по-разному), представляют собой терновый венец.
- Завязь в форме чаши с цветоложем напоминают Святой Грааль.
- 3 рыльца на пестике обозначают 3 гвоздя, которыми был прибит Христос, а 5 пыльников под ними – 5 ран (4 от гвоздей и 1 от копья).
- Белый и голубой цвета символизируют Рай и Чистоту.

По всей Европе этот цветок стали называть именно так в связи с его символической трактовкой. В Испании он известен как espina de Cristo (терние Христа). В Германии он называется Christus-Krone (Венец Христа) или Christus-Strauss (Букет Христа), Dorn-Krone (терновый венец), Jesus-Leiden (Страсти Христа), Marter (Страсти), Muttergottes-Stern (Звезда Матери Божьей).

### 9. Камелии и игнация

Шведский биолог Карл Линней, разработавший систему классификации растительного и животного мира, назвал цветок камелии в честь монаха-иезуита Георга Йозефа Камела (1661–1706 гг.). Камел провел много времени, создавая перечень флоры и фауны на Филиппинах в рамках своей медицинской практики. Он открыл лекарственные свойства игнации (Strychnos ignatii), которая и сегодня является важным источником стрихнина. Линней был так впечатлен работой брата Камеля, что переименовал названия вида из "чайная" в "камелию". Этот вид включает в себя и кустовое растение, которое используется для создания чая.

### 10. Хинин (Иезуитская кора)

В XVII в. испанский монах-иезуит в Перу узнал от местных жителей, что кора хинного дерева может вылечить малярию. Монах-иезуит показал это лекарство всему миру, вылечив императора Японии. Сегодня хинин применяется и в создании содовой воды, так что благодаря иезуитам у нас есть джин с тоником.

### 11. Громкоговоритель

Иезуит Афанасий Кирхер, SJ (1602–1680 гг.) – немецкий ученый-полимат эпохи Возрождения – одним из первых изучал микробов под микроскопом и доказал, что бубонная чума распространяется через микроорганизмы-носители. Когда он не был занят спусками в вулканы, выживанием в кораблекрушении и изучением чумы, Кирхер изобретал: часы, автоматические устройства и первый громкоговоритель.

### 12. Зонтик

Зонтики от солнца и дождя появились в XVII в. во Франции и Англии под влиянием иезуитов, которые долгое время провели в Восточной Азии. 22 июня 1664 г. английский писатель Джон Ивлин написал в своем дневнике о коллекции священника-иезуита Томпсона, который был в Китае и Японии. Среди предметов коллекции он отметил "веера, похожие на те, что используют наши дамы, но намного большие и на длинном стержне, причудливо гравированные и выполненные в восточном стиле". Это были зонтики от солнца.

Так что в следующий раз, когда будете сидеть под зонтиком, прячась от солнца, потягивать джин с тоником, лакомясь темпурой и маракуйей, листать страницы в Интернете, вспомните св. Игнатия и иезуитскую общину, которые сделали много открытий для углубления наших знаний – Ad maiorem Dei gloriam ("к вящей славе Божьей").

*Aleteia, перевод Дарьи Жуковской для Рускатолик.рф*



# У 23 гады стала маці 13 дзяўчынак

**18-гадовай дзяўчынай Кэці паехала ва Уганду на тры тыдні. Вярнуўшыся адтуль, прывезла для сваёй сям'і дзіўную навіну, паведамляе deon.pl.**

Пасля гэтага выезду Кэці Дэвіс Мейджорс вырашыла пакінуць вучобу і змяніць свае планы. Яна пастанавіла вярнуцца ва Уганду як місіянерка, каторая будзе вучыць мясцовых дзяцей.

У дваццацітрохгадовым узросце яна ўдачарыла 13 дзяўчынак і займалася імі як адзінокая маці. Праз некалькі гадоў сустрэла сваё каханне – таксама місіянера.

– Гэта самы вялікі падарунак ад Бога! Знайсці чалавека, які не толькі зацікаўлены тым, чым я займаюся, але і захоплены думкай увайсці ў такое сумеснае жыццё, – кажа Кэці. Яна падкрэслівае, што такі досвед даў ёй нямала натхнёных думак, дапамог спадзявацца на Бога, у прыватнасці, перад тварам пакуты і трагедый.

– Я змагалася з пытаннем: кім ёсць Бог? Хто Ён такі? Я ўбачыла, што Бог ёсць тым, кім Ён Сам кажа, што ёсць: Ён добры, верны і імкнецца радаваць сваіх людзей, – кажа Кэці.

Людзі ва ўсім свеце захопленыя радасцю і шчодрасцю Кэці, якая натхняе іншых, каб давалі тое, што маюць, і знаходзілі Бога ў штодзённасці.

# Манахіні, якія вырабляюць касметыку

**У сераду, 25 кастрычніка, адна з найбуйнейшых фінансавых газет у Польшчы – "Puls Biznesu" – апісала гісторыю сясцёр-бэнэдыктынак з Францыі. Чым сёстры прыцягнулі ўвагу польскай штодзённай фінансавай газеты?**

За незвычайны факт палічылі тое, што сёстры-бэнэдыктынкі займаюцца вытворчасцю натуральнай касметыкі. І больш за тое, гэтая прадукцыя прыносіць пэўны даход. Акрамя таго, сёстры з Францыі большую частку сваёй касметыкі прызначаюць на экспарт у Германію.

Варта адзначыць, аднак, што ўсе прыбыткі ад продажу прадукцыі ідуць на патрэбы манаскай супольнасці. Так, у апошні час яны плануюць фінансаваць рэканструкцыю гістарычнага кляштара, у якім цяпер і жывуць. Без сродкаў ад касметычнай прадукцыі захаваць кляштар, верагодна, будзе немагчыма.

У цяперашні час у вытворчасці касметыкі ўдзельнічаюць усе сёстры. Варта адзначыць, што касметыка ад сясцёр прадаецца, сярод іншага, праз сайт у інтэрнэце, а таксама ў розных буціках.

Цікава, што дэвіз сясцёр-бэнэдыктынак – "Маліся і працуй", таму для іх на першым месцы заўсёды малітва.

*aleteia.org*



# Дзень духоўных сустрэч для духавенства Віцебскай дыяцэзіі прайшоў у Браславе

**15 лістапада ў Санктуарыі Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе адбыўся чарговы дзень духоўных сустрэч для духавенства і законных асоб з Віцебскай дыяцэзіі.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык,** *фота*



Выстаўленне Найсвяцейшага Сакрамента, супольная і асабістая малітва, час для споведзі – гэта гадзіна на сустрэчу з Богам на пачатку спаткання, каб суцішыцца і на нейкі час забыцца пра свае парафіяльныя справы і ўзгадаць уласнае духоўнае жыццё.

На пачатку святой Імшы, якую ўзначаліў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, іерарх адзначыў, што ў лістападзе мы асаблівым чынам молімся за нашых памерлых родных і блізкіх і заахвоціў да малітвы ў інтэнцыі спачылых святароў і манахінь з дыяцэзіі.

Казанне прамовіў дэкан з Глыбокага кс. Мікалай Ціхановіч. Святар узгадаў, што Папа Францішак падчас адной з аўдыенцый сваю катэхезу прысвяціў сакраманту святарства. Яно "дазваляе выконваць служэнне, якое Пан Езус даверыў апосталам – пасвіць статак, у моцы Яго Духа і паводле Яго сэрца. Святар, біскуп, дыякан павінны пасвіць статак Пана з любоўю. Калі робяць інакш, гэта нядобра. У такім сэнсе слугі, якія выбіраюцца і прысвячаюцца гэтаму служэнню, працягваюць у часе прысутнасць Езуса. Чыняць гэта моцай Святога Духа, у Божае імя і з любоўю", – сказаў Папа. Францішак адзначыў, што тыя, хто атрымаў сакрамант святарства, ставяцца ў галаве супольнасці, што для Езуса азначала падпарадкаванне сваёй улады служэнню. Пан сведчыў пра гэта сваім жыццём і вучыў сваіх вучняў.

Кс. Мікалай заклікаў прысутных святароў зрабіць пэўны аналіз свайго служэння на падмурку трох паставаў, якімі павінны адзначацца вучні Хрыста: пакоры ў Божай службе, удзячнасці і няспыннай памяці пра тое, што Валадарства Божае ўнутры нас.

На заканчэнне Эўхарыстыі біскуп Алег падзякаваў арганістцы Іне Сапун за музычнае суправаджэнне Імшы і адзначыў для прысутных, што гэта гучаў новы арган, які нядаўна быў усталяваны і асвечаны ў браслаўскім касцёле.

Наступным пунктам праграмы стала канферэнцыя духоўнага айца дыяцэзіі ксяндза Станіслава Памykaлы, які засяродзіў увагу на словах Езуса: "Без Мяне нічога не можаце ўчыніць" (Ян 15, 5). "Бог на небе, а мы на зямлі робім свае справы. І як часта забываем, што без Яго нічога самі не можам зрабіць. Мы самі шукаем рознымі спосабамі "сваёй" Волі Божай. (...) Часам для нас з'яўляецца важнейшым, як мы будзем выглядзець у вачах Маці-настаяцельніцы, біскупа, іншага святара, чым у вачах Езуса Уваскрослага. А Езус нам нагадвае: "Калі вы хочаце быць са Мной, то павінны адрачыся самога сябе". Трэба проста перастаць "карміць" сваё сэрца грашыма і ўладай. І калі мы будзем адкрытымі на Яго, то Ён пачне дзейнічаць праз нас. І тады ў жыцці не будзе самотнасці".

Пасля канферэнцыі канцлер дыяцэзіі кс. Віктар Мiсевіч прадставіў чарговы бюлетэнь. Таксама для святароў і сясцёр была прапанаваная духоўная літаратура, календары, а таксама іншыя неабходныя матэрыялы для жыцця парафіі. Такую магчымасць прадставілі рэдакцыі "Pro Christo", "Каталіцкі Веснік", "Дыялог" і Catholic.by.

Наступная такая сустрэча пройдзе ў аўторак 19 снежня ў Полацку.

# Адпустовую ўрачыстасць і юбілей парафіі адзначылі ў Канстанцінаве Глыбоцкага дэканата



**З гэтай нагоды ў нядзелю, 12 лістапада, а дванаццатай гадзіне адбылася ўрачыстая святая Імша, якую ўзначаліў біскуп Алег Буткевіч.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Таксама на святе прысутнічалі ксёндз Павел Самсонаў, дэкан Пастаўскі, і ксёндз Андрэй Кулік, пробашч з Дзеркаўшчыны.

Напачатку пробашч прывітаў біскупа і ўсіх прысутных, а таксама коратка распавёў гісторыю парафіі ў Канстанцінаве. Доўгі час гэтая вёска ўваходзіла ў Удзелаўскую парафію, але ў 1917 годзе стала самастойнай.

Таксама ў гэты дзень адзначаецца ўспамін святога Язафата Кунцэвіча, імя якога носіць парафія ў Канстанцінаве і які лічыцца апекуном Віцебскай дыяцэзіі. Святар узгадаў, што ранейшая святыня была зруйнаваная ў 1962 годзе, у часы ваяўнічага атэізму. Касцёл аднавілі на старых падмурках на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. У лістападзе 1995 года новы храм асвяціў кардынал Казімір Свёнтэк.

Біскуп у сваім прывітальным слове павіншаваў усіх вернікаў з юбілеем парафіі і заклікаў маліцца за мір і еднасць. Якраз за гэта і выступаў у свой час біскуп Язафат Кунцэвіч, за гэта і аддаў сваё жыццё.

Святую Імшу ўпрыгожыў сваім спевам хор моладзі з Мёраў, які на запрашэнне пробашча прыбыў на ўрачыстасць.

На пачатку сваёй гаміліі іерарх падзякаваў вернікам за адбудаваную святыню. "Святыня – гэта знак нашай веры, – падкрэсліў біскуп Алег, – таму і нішчылі камуністычныя ўлады ў першую чаргу храмы, крыжы, прыдарожныя капліцы. Усе нашы дарогі павінны весці да Бога". З гэтай нагоды іерарх узгадаў выпадак са старой жанчынай, якая ў незнаёмым горадзе спытала ў мінака, ці вядзе да касцёла гэта дарога? Пачуўшы ў адказ, што не, яна адказала: "А навошта такая дарога, якая не вядзе да касцёла?"

Закрануў біскуп і тэму пакліканняў, нагадаўшы, што кожны з нас пакліканы да нейкай справы, а ўсе разам мы пакліканыя да вечнага жыцця. Таксама іерарх узгадаў і пра біскупа Язафата Кунцэвіча, які выступаў за еднасць Хрыстовага касцёла, за што і быў забіты ў Віцебску у 1623 годзе.

Езус Хрыстус завяшчаў нам любіць Бога і сваіх бліжніх, згодна з гэтай запаведдзю і трэба будаваць наша жыццё. Любіць – гэта прывесці сваіх дзяцей да веры, даць ім прыклад сведчання гэтай веры. Каб потым нашы дзеці не баяліся даручыць сваё жыццё Богу.

Напрыканцы Імшы адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, вернікі разам са святарамі памаліліся літаніяй да Найсвяцейшай Крыві Езуса і прайшлі працэсіяй вакол касцёла. Пасля блаславення кожны меў магчымасць ушанаваць рэліквіі святога Язафата.

Пазней вернікаў чакаў прыемны сюрпрыз – канцэрт класічнай музыкі, які быў падрыхтаваны ў межах праекта "Віцебскі арганны шлях". Як адзначыў адзін з каардынатараў гэтага праекта, Уладзімір Правілаў, гэта быў апошні падобны выступ у гэтым годзе, але надалей такія мерапрыемствы будуць працягвацца, бо далёка не ўсе жыхары малых гарадоў і вёсак маюць магчымасць паслухаць добрую класічную музыку. На гэты раз вернікаў парадавалі сваім талентам музыкі з Мінска Аляксандра Палятаева і Маргарыта Барысевіч, якія выканалі на флейце творы класікаў.

Адпустовыя ўрачыстасці закончыліся, а парафія святога Язафата Кунцэвіча ў Канстанцінаве пачала адлік другога стагоддзя свайго існавання. Хочацца спадзявацца, што новы перыяд будзе менш драматычным, чым мінулыя сто гадоў.

# Адышлі так хутка

**У лістападзе асаблівым чынам успамінаюцца тыя, хто адышоў у вечнасць, тыя, хто ніколі да нас ужо не прыйдзе, але нас і не пакідае. Бацькі маіх бацькоў. Мама і тата. Сястра. Дзядзькі і цёткі. Хросныя. Свёкар, свякроў. Настаўнікі. Аднакласнікі. Сваякі. Аднавяскоўцы. І гэты спіс, на жаль, папаўняецца з кожным годам.**

**Алена Пажога**

Татавы бацькі пайшлі з гэтага свету задоўга да майго нараджэння. Наша сустрэча тут, на зямлі, не адбылася. А мамін бацька мяне крыху паняньчыў, памёр, калі мне споўніўся год. Дзядулеў вобраз у маёй памяці не захаваўся.

У сямігадовым узросце мне давялося ўпершыню перажыць смерць роднага чалавека. Памерла мая шаснаццацігадовая сястра…

Мінула амаль пяцьдзясят гадоў, а я памятаю той лютаўскі вечар, калі з абласной бальніцы прыйшла тэлеграма з балючай весткай. Памятаю, як сястра ў бялюткай вясельнай сукенцы і вяночку ляжала ў труне, такая родная і адначасова незнаёмая. А я старалася пераканаць сябе і іншых: “Яна не памерла, яна спіць”. І толькі калі на магілках па труне загрукалі груды замерзлай зямлі, я горка заплакала, мне стала страшна. Страшна, што мы не будзем больш разам, што пакінем яе ў цёмнай і халоднай магіле.

У маі таго ж года на маіх вачах памёр татаў родны брат. Памёр вельмі хутка, нечакана (хоць смерць, напэўна, заўсёды прыходзіць нечакана). Прылёг пасля абеду, задрамаў, і пачаў канаць. Мама з цёткай ледзь паспелі запаліць грамнічную свечку. Потым казалі, што ён нібы прадчуваў хуткі зыход, бо за некалькі дзён да смерці папрасіў тату з'ездзіць з ім у касцёл да споведзі, а таксама зняў у ашчаднай касе свае невялікія зберажэнні. Было дзядзьку 72 гады.

Бабуля, маміна маці, адышла ў вечнасць у 69 гадоў. Мне тады было дзевяць. Бабуля называла мяне “котка мая”, песціла. Незадоўга да смерці спытала: “Леначка, ці будзеш прыходзіць на магілкі і прыносіць мне кветачкі?” . Я абяцала і разам з мамай часта прыходзіла на магілкі.



У першы чэрвеньскі дзень 1984 года пайшла ў лепшы свет татава сястра, якая жыла ў нашай сям'і. 82 гады пражыла яна сціпла і спакойна. Сваіх дзяцей не мела, таму дапамагала ў выхаванні нас, сваіх пляменнікаў. І цяпер, праз шмат гадоў, на памяць прыходзяць клапатлівыя парады і павучанні маёй цётачкі.

Ліпеньскім ранкам 1986 года памёр тата *(на правым здымку)*. Была нядзеля. Я са старэйшай сястрой збіралася паехаць у пушчу па чарніцы, раненька прыйшла да яе. Але прыбегла суседка і паклікала сястру да тэлефона. З дому паведамілі пра татаву смерць. Зноў жалобная вестка прыйшла неспадзявана. Тата пражыў 74 гады. Калі святкавалі татаў 70-гадовы юбілей, ён сказаў, што пражыў гэтыя гады так хутка, нібы праз хату перайшоў – у адны дзверы зайшоў, а ў другія выйшаў.

Снежаньская нядзеля 2011 года стала апошнім днём зямнога жыцця маёй мамы. Маме было 86 гадоў. У апошнія месяцы жыцця яна чакала смерці, казала, што ўжо досыць нажылася. У тую нядзелю я з раніцы з'ездзіла ў касцёл на Імшу, а потым засталася з мамай, адпусціла ў касцёл сястру. Мама ўвесь час драмала або шаптала малітвы. Нічога не прасіла, на ўсе прапановы адказвала: “Нічога мне не хочацца”. Потым заснула. Я прыслухоўвалася да яе дыхання і малілася “Вяночкам да Божай міласэрнасці”. Вярнулася сястра, я пайшла дамоў. Увечары, калі ўкладвалася спаць, зазвінеў тэлефон. Сястра паведаміла, што мама памерла. Я паспяшалася да яе. Той недалёкі шлях здаўся мне вельмі доўгім.

Смерць дарагога, любага чалавека – непапраўная балючая страта, незалежна ад ўзросту, у якім яе даводзіцца перажываць. Цяжка пачынаць далей жыць без… Але таксама смерць блізкага – нагода задумацца над сваім жыццём: якім шляхам я іду, які след пакіну на зямным гасцінцы?

Мае родныя не нажылі багацця, не назбіралі грошай, але яны захавалі і перадалі ў спадчыну найкаштоўнейшы скарб – веру.



Сям'я Алены Пажога. Сама Алена – маленькая дзяўчынка ў цэнтры.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*“Каталіцкі Веснік”*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Біскуп Алег Буткевіч наведаў з афіцыйным



**Пастырская візітацыя біскупа Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча ў парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім праходзіла 29 і 30 кастрычніка. Гэта першы афіцыйны візіт кіраўніка дыяцэзіі ў Глыбоцкую парафію за 11 гадоў. Апошні раз, а гэта было 10 верасня 2006 года, візітаваў біскуп Уладзіслаў Блін.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Візітацыя з'яўляецца адной з найбольш важных падзей для кожнай парафіяльнай супольнасці, прадугледжанай у праве Касцёла.

У нядзелю, за паўгадзіны да ўрачыстай св. Імшы, вернікі віталі высокага госця на пляцы перад святыняй. Словы прывітання скіравала намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкама Таццяна Тарасевіч. Уваход біскупа і ўсіх вернікаў у касцёл суправаджала мелодыя "Мы хочам Бога, Дзева Маці", якую зайграў духавы аркестр Глыбоцкай школы мастацтваў пад кіраўніцтвам Мікалая Лашкова.

На некалькі хвілін перад алтаром біскуп Алег затрымаўся на ціхай малітве, а пасля іерарха прывіталі дзеці парафіі і старшыня парафіяльнай рады. Затым пробашч парафіі кс. Мікалай Ціхановіч пазнаёміў прысутных з гісторыяй Глыбоцкай парафіі.

У сваім прывітальным слове віцебскі ардынарый адзначыў, што ў парафіі Бог жыве, і заклікаў усіх маліцца, каб сям'я Божая тут толькі павялічвалася.

Апоўдні распачалася ўрачыстая святая Імша, падчас якой 65 кандыдатаў да сакраманту канфірмацыі разам з усімі вернікамі вызналі сваю веру, адракліся ад граху і прасілі, каб Дух Святы ўмацаваў іх у мужным вызнаванні веры і жыцця паводле яе праўдаў.

На пачатку сваёй гаміліі біскуп адзначыў, што мы жывём у складаны час. Хаця зараз вера адкрыта не пераследуецца, але сучасны свет не спрыяе яе вызнанню. Таму іерарх і заклікаў кандыдатаў да канфірмацыі стаць у гэтым свеце сапраўднымі сведкамі веры, каб іншыя людзі маглі браць з іх прыклад.

Звярнуў ардынарый увагу і на такія паняцці, як вера і свабода. Часта памылкова сцвярджаюць, што вера не сумяшчальная са свабодай. Але гэта не так. Без веры нельга прыняць і зразумець свабоду. Яскравае пацвярджэнне гэтаму дае гісторыя XX стагоддзя, калі дзве таталітарныя ідэалогіі, якія адмаўлялі існаванне Бога, фашызм і камунізм, казалі чалавеку, што Бога няма, што чалавек галоўны ў нашым свеце і менавіта ён вызначае свабоду. І да чаго гэтага прывяло, людзі старэйшага пакалення добра памятаюць.

Нагадаў біскуп і пра адказнасць за іншага чалавека, якую не ўсе хочуць на сябе браць. Варта заўсёды ставіць перад сабой такія пытанні: ці гатовы я несці адказнасць за гэтага чалавека і ці гатовы ўспрымаць яго такім, якім ён ёсць. І ў першую чаргу варта мяняць сябе, тады і навакольны свет зменіцца.

На заканчэнне Літургіі іерарх падзякаваў глыбоцкім парафіянам за дапамогу ў рамонце закрыстыі, адзначыўшы, што храм належыць не святару ці біскупу, а ўсёй парафіі. Таму гэта наш агульны дом, пра які мы мусім клапаціцца.

У сваю чаргу канфірмаваныя асобы падзякавалі за ўдзелены сакрамант біскупу Алегу і святарам парафіі за падрыхтоўку, малітоўную падтрымку, за навуку і сакрамант споведзі.

Працягам візітацыі стала сустрэча з парафіяльнай радай, падчас якой біскупа пазнаёмілі з дзейнасцю прадстаўнікоў парафіі і планамі на будучыню. Таксама былі разгледжаны надзённыя пытанні.

У ходзе візітацыі кіраўнік дыяцэзіі не толькі сустракаецца з вернікамі і рознымі супольнасцямі, але і знаёміцца з вядзеннем дакументацыі. Спачатку перад афіцыйным прыездам парафіяльную канцылярыю наведаў канцлер дыяцэзіі кс. Віктар Місевіч, які праверыў і падпісаў дакументы і кнігі-метрыкі, а ў нядзелю свой подпіс і пячатку на кожнай з іх пакінуў біскуп Алег.

Увечары падчас св. Імшы з удзелам моладзі біскуп разважаў над галоўным прынцыпам нашай веры і жыцця – прынцыпам любові. Любоў да Бога і любоў да чалавека непадзельна звязаныя паміж сабой. Гісторыя нашай краіны і нашага жыцця гэта пацвярджае. "Як можам казаць, што любім Бога, якога не бачым, а не любім чалавека, якога бачым? Любоў – гэта адказнасць перад іншым чалавекам", – звярнуў увагу ардынарый.

Пасля Імшы іерарх сустрэўся з моладдзю парафіі і пацікавіўся яе жыццём, дзейнасцю і дасягненнямі. Таксама біскуп Алег узняў пытанне карыстання інтэрнэтам і сацыяльнымі сеткамі: "Інтэрнэт – гэта добрая справа, калі карыстаешся ім з розумам. Нельга забываць пра жывыя, а не віртуальныя зносіны з сябрамі і іншымі людзьмі".

На гэтым першы дзень візітацыі скончыўся.

Наступны дзень быў таксама вельмі насычаны спатканнямі з рознымі людзьмі. І распачаўся ён са св. Імшы а 9-й гадзіне разам з глыбоцкімі вернікамі ў касцёле. А 10-й гадзіне кіраўніка Віцебскай дыяцэзіі чакалі ў Глыбоцкім раённым выканаўчым камітэце. На сустрэчы з боку прадстаўнікоў мясцовай улады прысутнічалі старшыня Глыбоцкага раённага Савета дэпутатаў Галіна Унуковіч, першы намеснік старшыні, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання раённага выканаўчага камітэта Іосіф Пачкоўскі, намеснікі старшыні раённага выканаўчага камітэта Алег Варша і Таццяна Тарасевіч, кіраўнік спраў раённага выканаўчага камітэта Іна Султанава і галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Марыя Аляхновіч.

На сустрэчы былі ўзнятыя надзённыя пытанні парафіі, самае галоўнае з якіх – рамонт даху касцёла. Як адзначыла Галіна Унуковіч, "у нашым горадзе і раёне мы не падзяляем католікаў і праваслаўных, а супрацоўнічаем з усімі". Таксама закранулі і пытанне наконт выхавання маладога пакалення, сумеснага правядзення з Каталіцкім Касцёлам летняга адпачынку для дзяцей са шматдзетных і малазабяспечаных сем'яў, абмеркавалі і шмат іншых праблем. На заканчэнне сустрэчы першы намеснік старшыні ўручыў прадстаўніку высокага духавенства Каталіцкага Касцёла кнігу пра Глыбоччыну і памятны падарунак.

Пробашч парафіі кс. Мікалай і біскуп Алег падзякавалі кіраўнікам мясцовай улады за супрацоўніцтва на высокім хрысціянскім узроўні і адкрытасць з іх боку.

Апоўдні іерарха чакаў педагагічны калектыў сярэдняй школы № 2. Пры ўваходзе ў школу, адразу на першым паверсе, іерарха сустрэлі настаўнікі, а затым дырэктар Жанна Кандрацьева правяла невялікую экскурсію па ўстанове для гасцей. Гэтая школа заўсёды адкрытая на супрацоўніцтва з мясцовымі святарамі, а таксама на правядзенне розных мерапрыемстваў. Напрыклад, вось ужо некалькі гадоў запар школа прымае і корміць каля двухсот чалавек, якія бяруць удзел у акцыі "Мы разам".





# візітам парафію Святой Тройцы ў Глыбокім

На гэтым візіт не скончыўся, і біскупа запрасіліў адзін з класаў, дзе яго чакалі настаўнікі. Як пасля адзначыў сам іерарх, з такой колькасцю настаўнікаў (каля пяцідзесяці!) ён размаўляў упершыню. Педагогі актыўна задавалі біскупу Алегу розныя пытанні. Былі закранутыя тэмы сістэмы адукацыі ў Каталіцкім Касцеле, хрысціянскага, маральнага выхавання маладога пакалення. Не абмінула высокага госця і пытанне пра пакліканне да святарства. Хоць адказ на яго – вялікая таямніца, нават для самога святара, але іерарх падзяліўся ўласнымі ўспамінамі з гадоў вучобы ў школе, ва ўніверсітэце і семінарыі. "Вы робіце вельмі важную справу! Настаўнікі павінны быць выхавальнікамі і прыкладам для дзяцей. Каб добра выхаваць дзіця, трэба з ім проста быць: быць бацькамі, быць настаўнікамі, быць побач", – падкрэсліў біскуп Алег. А кс. Мікалай Ціхановіч у сваю чаргу пажадаў маладым чальцам педагагічнага калектыву, каб пераймалі настаўніцкі выхавальніцкі дух і любоў да сваёй прафесіі ад настаўнікаў старэйшага пакалення.

Дырэктар школы Жанна Кандрацьева падзякавала біскупу Алегу за выбар для сустрэчы менавіта другой школы і падарыла памятную кнігу пра навучальную ўстанову і Падзяку за супрацоўніцтва.

Перадапошнім пунктам праграмы афіцыйнага візіту стала наведванне Глыбоцкага раённага шпіталя і сустрэча з медыцынскім персаналам. Біскуп Алег пабываў у радзільным аддзяленні, якому падарыў абраз Маці Божай з Дзіцяткам Езусам на руках, а таксама сустрэўся з маленькімі пацыентамі дзіцячага аддзялення і паліклінікі.

Не мог віцебскі ардынарый пакінуць без увагі працоўны калектыў і кіраўніцтва Глыбоцкага Дома культуры, які заўсёды адкрывае дзверы для розных мерапрыемстваў: дыяцэзіяльнае спатканне катэхетаў, акцыя "Мы разам" для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, запусты "Андрэйкі", калядны канцэрт. Дырэктару Марыі Рабіза была ўручана Падзяка за актыўнае супрацоўніцтва ў захаванні хрысціянскіх каштоўнасцей сярод жыхароў Віцебшчыны.

Два дні кананічнай візітацыі біскупа Алега Буткевіча былі вельмі насычанымі, багатымі на сустрэчы і размовы з глыбоцкімі вернікамі, прадстаўнікамі ўлады і розных грамадскіх структур і, спадзяёмся, гэта прынясе свой плён.







# Беларусь у "святых" гербах: Навагрудак і Шуміліна

**Пасля апісання герба Шарашова з галоўным героем св. арханёлам Габрыэлем немагчыма прамаўчаць пра вельмі папулярнага ў геральдыцы арханёла Міхала. Ён стаў апекуном такіх гарадоў, як Кіеў, Івана-Франкоўск, Смаленск, Бяла-Падляска, шэрагу нямецкіх гарадоў, а таксама з'явіўся на гербах населеных пунктаў нашай Бацькаўшчыны: Навагрудка і Шуміліна.**

■ **а. Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*





Навагрудак на сваім гербе меў постаць анёла ўжо ў XVI ст. Сёння немагчыма адказаць станоўча, што гэта быў арханёл Міхал. Але Вялікі Князь Літоўскі Жыгімонт Ваза ў 1595 годзе, надаючы новы герб Навагрудку, выразна падкрэслівае, што постаць на гербе – гэта менавіта князь анёльскага войска арханёл Міхал.

Шуміліна свой герб атрымала нядаўна, можна сказаць, у спадчыну ад суседняй вёскі Сіроціна, якая свой герб мела ўжо ў XVII ст. Гэта вёска калісьці належала пану Урбану Антонію Грэбніцкаму. Таму тут бачым таксама панскі радавы герб "Астоя".

Найчасцей арханёл Міхал на гербах паказаны ваяром, салдатам, змагаром. У яго руцэ амаль заўсёды меч, адзеннем з'яўляюцца рыцарскія латы. На шумілінскім гербе арханёл яшчэ больш сур'ёзна ўзброены і мае шчыт. Гэтая вайсковая традыцыя не што іншае, як рэха апісанага ў Адкрыцці Св. Яна Апостала змагання арханёла са старадаўнім змеем, у якім бачылі д'ябла, сатану, Люцыфера. Па традыцыі арханёл Міхал кінуўся ў змаганне з Люцыферам і яго ўзбунтаванымі анёламі з воклічам "Хто, як Бог!". Дарэчы, з габрэйскай мовы Міхал так даслоўна і тлумачыцца. У адрозненні ад навагрудскага герба гэты змей, або інакш таксама дракон, паказаны на гербе Шуміліна.

На абодвух гербах Міхал трымае амаль што абавязкова атрыбут для сябе – шалі.

Арханёлу Міхалу прыпісвалі ролю праўдніка чалавека на суд Божы. Звычайна ён стаіць з шалямі каля чалавека, які канае, каб узважыць яго добрыя і дрэнныя ўчынкі. Можа, таму арханёл Міхал з'яўляецца і апекуном могілак.

# Брат Эмануэль: “Прагну кожны дзень станавіцца братам святога Яна Божага!”

## Гісторыя аднаго паклікання



**Пра гісторыю свайго паклікання распавядае брат Эмануэль, які належыць да ордэна баніфратраў. Ён свядома прыняў веру ўжо пасля заканчэння школы, а калі скончыў медыцынскі ўніверсітэт, стаў манахам і паехаў працаваць у Польшчу.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Мы паразмаўлялі з братам Эмануэлем падчас яго прыезду ў Віцебск, дзе ён прысутнічаў на асвячэнні капліцы ў Доме састарэлых, і папрасілі яго распавесці пра сваю гісторыю паклікання.

Брат Эмануэль кажа, што “сапраўднай гісторыі паклікання няма без Бога, таму я заўсёды Яму дзякую за сваё пакліканне. Я з’яўляюся братам святога Яна Божага, дакладней, прагну кожны дзень станавіцца братам святога Яна Божага. Паходжу я з праваслаўнай сям’і, быў ахрышчаны ў праваслаўнай царкве, у касцёл пачаў хадзіць толькі ў васямнаццаць гадоў, калі ўжо паступаў у медыцынскі ўніверсітэт.

Я часта ў дзяцінстве хварэў, даводзілася ляжаць у бальніцах, і туды прыходзілі хрысціяне розных канфесій, якія прапаноўвалі або Біблію прачытаць, або памаліцца разам, бо ў сям’і ў мяне не было такога вопыту веры, не было рэлігійнай практыкі. І зараз я бачу сэнс гэтага цярпення, якое мяне спаткала. Бо аб’явілася вялікае дабро праз такія прабыванні ў бальніцах, гэта стала для мяне своеасаблівым штуршком, каб навярнуцца, каб зрабіцца вернікам-практыкам.

І неяк так сталася, што Каталіцкі Касцёл быў мне больш блізкі, чым Царква, і я пайшоў у знакаміты Чырвоны касцёл у Мінску і там ужо прыняў веру, прыняў усім сэрцам. Было гэта не проста фармальнае прыняцце, але я стаў вернікам-практыкам.

> **“...як толькі закончыў універсітэт, то адразу, можна сказаць, збег у Польшчу, хоць бацькі былі супраць”**

З таго моманту ў мяне ўвесь час было імкненне і жаданне яшчэ больш аддана служыць Богу і іншым людзям. Я паступіў у медыцынскі ўніверсітэт, паступіў тады, калі ўжо стаў на шлях навяртання. Навяртанне – гэта не нейкі адзін момант у жыцці, гэта праца на ўсё жыццё, на доўгія гады, на кожны дзень. Таму я не кажу, што я навярнуўся, а толькі стаў на гэты шлях.

Неяк выпадкова трапіла да мяне кніжка, у якой згадвалася пра баніфратраў. І ў мяне ў галаве нарадзілася думка, якая не адпускала падчас усёй вучобы ва ўніверсітэце: баніфратры, шпітальны ордэн, які апякуецца хворымі, дзе ёсць лекары, які арганізоўвае шпіталі, дамы апекі, дамы састарэлых – гэта маё, бо тут можна спалучыць і знаходжанне ў ордэне ў якасці брата, і быць лекарам.

Некалькі разоў я быў на рэкалекцыях для распазнання паклікання ў Польшчы, і як толькі закончыў універсітэт, то адразу, можна сказаць, збег у Польшчу, хоць бацькі былі супраць. Так сталася, што пра сваё рашэнне я сказаў ім у апошнія дні, таму я літаральна ўцёк ад іх. У студзені будзе ўжо дзесяць гадоў, як я выехаў у Польшчу. І Госпад дазваляе мне трымацца ў сваім пакліканні, і не толькі трываць, але Ён хоча, каб я ў Ім радаваўся, каб быў шчаслівы. Каб не хадзіў сціснуўшы зубы, каб мог трываць на зло ворагам, але і радавацца, што я належу да братоў Яна Божага.

Не шкадую, што ў свой час паехаў у Польшчу, але спадзяюся, што будзе магчымасць вярнуцца ў Беларусь. І мне здаецца, што Бог гэтага хоча. Такое ў мяне магутнае перакананне!”

# Айцы-сэрцане арганізавалі ў Паставах трохдзённую сустрэчу для міністрантаў

**З 3-га па 5-га лістапада ў Паставах пры парафіі Святога Антонія Падуанскага праходзіла спатканне міністрантаў з парафій Віцебскай дыяцэзіі, якімі апякуюцца айцы-сэрцане.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Агэта Варапаева, Шаркаўшчына, Стары Двор. Далучыліся да іх хлопцы з Камайскай парафіі, а таксама дзесяць маладых людзей прыехалі з Гродна разам з а. Эдуардам Сінкевічам SCJ. 37 юнакоў сабраліся разам, каб правесці гэты час восеньскіх канікул у радасці, адзінстве і супольнай малітве.

Падчас спаткання ўдзельнікі паглядзелі хрысціянскі фільм “Джонні” пра 10-гадовага хлопчыка-сірату, хворага на лейкемію. Яго доктар-анколаг быў вельмі ўражаны аптымізмам хлопчыка і, перш за ўсё, яго верай у Бога. Пасля прагляду фільма міністранты мелі пэўны час, каб паразважаць над ім і над сваім жыццём.

Безумоўна, галоўным пунктам штодзённай праграмы была св. Імша. У суботу Эўхарыстыю цэлебраваў а. Эдуард, які запрасіў хлопцаў стаць бліжэй алтара і ўтварыць вялікае кола.

“Бог ёсць Любоў. Ён стварыў чалавека, каб гэтай любоўю дзяліцца. Усе мы розныя, і кожнага з нас Бог любіць. Ён ведае ўсіх па імені і вядзе па жыцці, у якім нічога не бывае выпадковым. У кожнага свой шлях – пакліканне. І наша заданне – адкрыць гэтую жыццёвую дарогу. Бог мяне любіць! – і гэта галоўная рэч у маім і тваім жыцці”, – падсумаваў святар.

Умацаваўшыся духоўным спажыткам, міністранты падсілкаваліся і цялеснай ежай. А пасля абеду адбыліся спаборніцтвы сярод парафіяльных каманд па міні-футболе. Выйгралі турнір гаспадары, другое месца – у каманды з Гродна. Трэцяе і чацвёртае падзялілі прадстаўнікі Варапаева і Камаяў, пятымі сталі хлопцы з Шаркаўшчыны і Старога Двара.



Ужо вечарам, пасля футбольнага турніру, удзельнікі спаткання наведалі гарадскія могілкі, дзе адбылася малітва за памерлых. Тут кожны запаліў лампадку і пакінуў яе на магілах.

У апошні дзень арганізатары падрыхтавалі прэзентацыю пра Караля Вайтылу, святога Папу. Кс. Эдуард распавёў пра айца Дэона – заснавальніка ордэна сэрцанаў. Нядзельнай Эўхарыстыяй закончылася сустрэча, пасля якой на абедзе а. Чэслаў Куцмеж SCJ уручыў памятныя кубкі за прызавыя месцы ў сэрцанскім турніры па футболе імя Айца Дэона.

Міністранты раз’ехаліся па сваіх парафіях, каб дапамагаць святарам у служэнні пры алтары, але спадзяюцца, што гэта сустрэча была не апошняй.

# Архітэктура і касцёл

## Тэст

**“Каталіцкі Веснік” прапануе Вам прайсці новы тэст на тэму архітэктуры ў касцёлах.**

**1** У касцёле гэта прастора перад алтаром, прызначаная для богаслужэння і разьмяшчэння духавенства:



**А.** Прэзбітэрый;
**Б.** Неф;
**С.** Аркада.

**2** У гэтым памяшканні захоўваецца адзенне, якое святар апранае перад Імшой:



**А.** Капітэль;
**Б.** Сакрыстыя;
**С.** Аркатура.

**3** У якім стылі пабудаваны Траецкі касцёл у Гервятах? У нашай краіне названы касцёл лічыцца адным з найлепшых узораў гэтага стылю:



**А.** Гервяцкі касцёл пабудаваны ў стылі класіцызму;
**Б.** У неагатычным стылі;
**С.** У стылі барока.

**4** Якую назву мае невысокая агароджа, якая складаецца з шэрагу фігурных слупкоў (балясаў)? У некаторых святынях вернікі становяцца пры ёй на калені падчас прыняцця Камуніі:



**А.** Поручань;
**Б.** Санктус;
**С.** Балюстрада.

**5** Месца ў святыні, прызначанае для аргана, называецца:



**А.** Хоры;
**Б.** Сакрум;
**С.** Арганістоўка.

**6** Адсюль абвяшчаецца Слова Божае, прамаўляецца казанне:



**А.** Амбона;
**Б.** Трыбуна;
**С.** Лекторый.

**7** Адно ці некалькі падземных скляпеністых памяшканняў пад касцёлам, што служаць для пахавання:



**А.** Надмагілле;
**Б.** Крыпта;
**С.** Склеп.

**8** Як называецца вонкавы бок будынка касцёла?



**А.** Фасад;
**Б.** Апсіда;
**С.** Неф.

*Падрыхтавала **Ірына Радзевіч***

**Правільныя адказы на стар.12**



# “Пакліканне, якое не перастае захапляць”: размова з ксяндзом Антоніем Грэмзам



**Сёння пра сваё пакліканне “Каталіцкаму Весніку” распавёў ксёндз Антоній Грэмза, рэктар касцёла імя Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне, душпастыр моладзі Гродзенскай дыяцэзіі.**

“Да 10 класа сярэдняй школы, калі б хто сказаў, што я пайду ў Вышэйшую духоўную семінарыю і стану святаром, – гэта было б цяжка ўявіць”, – апавядае святар. Пакліканне да святарства нарадзілася ў юнака акурат у 10 класе, калі ў яго роднай мясцовасці была заснаваная парафія, куды прыехаў служыць ксёндз Станіслаў Лугоўскі, салезіянін.

Адносіны з кс. Станіславам і прыклад яго служэння паўплывалі на хлопца, які неўзабаве стаў міністрантам. Пераломным момантам у выбары жыццёвага шляху аказаліся для будучага святара таксама Дыяцэзіяльныя дні моладзі ў Гродне, дзе ён упершыню ўбачыў семінарыстаў і сур'ёзна задумаўся над тым, што, можа, і яго Бог кліча да святарства. У 1994 годзе хлопец паступае ў Гродзенскую духоўную семінарыю.

Святар разважае: “Усё здаецца звычайным… Але ўсё было задумана Богам і стала правільным выбарам майго жыцця”.

Сёння служэнне людзям, а асабліва моладзі, дае ксяндзу Антонію духоўны імпульс радасці і захаплення святарствам. А пакліканне для святара – гэта сэнс і таямніца жыцця з Езусам у супольнасці Касцёла, якая не перастае зачароўваць!

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***



# Хто для Вас з'яўляецца прыкладам веры?

**У сённяшнім апытанні вернікі адказалі “Каталіцкаму Весніку”, хто з людзей з'яўляецца для іх найбольшым прыкладам сапраўднай, жывой веры!**

Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі:

- духоўныя асобы: святары, манахіні, біскупы – 131 адказ;
- бацькі, родныя – 81 адказ;
- Папа Францішак – 31 адказ;
- знаёмыя вернікі сваёй або іншай парафіі – 21 адказ;
- сябры – 12 адказаў.

**Усяго – 276 адказаў.**



*Падрыхтавала **Ірына Радзевіч***



**Каментарый чытача “Каталіцкага Весніка” на Фэйсбуку:**

**Юрый Панін:**
– Святары маёй любімай парафіі Найсвяцейшай Тройцы (Святога Роха) на Залатой Горцы ў Мінску.

# Каляндар на снежань



**У снежні Касцёл перажывае перыяд Адвэнту – радаснага чакання Божага Нараджэння.**

**6 снежня – успамін святога Мікалая.**
Святы Мікалай жыў у III ст. у Малой Азіі. Быў біскупам Міры (сучасная Турцыя). Найбольшую славу святому прынеслі яго незвычайная дабрыня і гатоўнасць заўсёды прыйсці на дапамогу бліжнім. Паводле падання, аднойчы Мікалай пацішку падкінуў грошы тром маладым дзяўчынам, якіх збяднелы бацька хацеў аддаць у публічны дом, каб яны не памерлі з голаду. Дзякуючы дапамозе біскупа дзяўчынам удалося захаваць цнатлівасць і добра выйсці замуж.
Мікалай вызваліў трох юнакоў, якіх гаспадар заезду, дзе тыя спыніліся, хацеў забіць і закатаць у бочку. Ён таксама дапамог уратавацца маракам, каторыя гінулі ў моры. Пасля смерці Мікалая яго рэліквіі захоўваліся ў Міры Лікійскай, пакуль у 1087 г. не былі выкрадзеныя італьянскімі купцамі і вывезеныя ў г. Бары на поўдні Італіі. Святы Мікалай з'яўляецца адным з найбольш папулярных святых на Захадзе, а на Усходзе яго ўшаноўваюць другім пасля Багародзіцы. Мікалая часта называюць Цудатворцам і лічаць вялікім сябрам дзяцей, апекуном шчаслівых сужэнстваў, вязняў і маракоў. Святы Мікалай з'яўляецца апекуном Расіі, а на Захадзе ён стаў правобразам славутага Санта-Клаўса. У многіх каталіцкіх краінах існуе звычай у гэты дзень рабіць дзецям падарункі.

**8 снежня – урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.**
Свята Беззаганнага Зачацця адзначалася на Усходзе ўжо ў VIII стагоддзі. У IX стагоддзі перайшло і на Захад. На беларускай зямлі гэтае свята пачало адзначацца з XIV стагоддзя. 8 снежня 1854 года Папа Пій IX сцісла акрэсліў і падаў праўду аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі як дагмат каталіцкай веры. Гэтая ўрачыстасць лічыцца абавязковай.

**25 снежня – Божае Нараджэнне.**
Вігілійную вячэру, якая распачынаецца пасля дзялення аплаткай, называюць куццёю (ад назвы крупяной кашы – куцці, якая абавязкова павінна быць у гэты вечар на стале). На стол ставяць толькі посныя стравы. У гэты дзень з радасцю прымаюць нечаканых гасцей. Асаблівую атмасферу вечара ствараюць і калядкі (песні на Божае Нараджэнне), якія можна таксама спяваць усёй сям'ёй. Кульмінацыяй вечара становіцца святая Імша ў вігілію Божага Нараджэння. У само свята, 25 снежня, уся сям'я, родныя і блізкія таксама збіраюцца за супольным сталом. Але ж галоўнае – загадзя паклапаціцца пра стан сваёй душы і быць духоўна падрыхтаваным да свята. З гэтай мэтай у перыяд Адвэнту Касцёл заахвочвае браць пастановы, у парафіях таксама адбываюцца Адвэнтовыя рэкалекцыі з магчымасцю прыступіць да сакраманту споведзі.

**26 снежня – успамін святога Стэфана, першамучаніка.**
Святы Стэфан быў адным з сямі памочнікаў Апосталаў у Ерусалімскім Касцёле. Паводле Дзеяў Апостальскіх, "поўны ласкі і моцы Духа Святога", ён абвяшчаў Добрую Навіну з мудрасцю, якой ніхто не мог супрацьстаяць. Першы мучанік, сведчачы сваёй смерцю аб праўдзівасці пасланніцтва Хрыста і Яго навукі, ажыццявіў ідэал дасканалага наследавання Пана. Існуе вялікае падабенства паміж смерцю Пана Езуса і святога Стэфана: фальшывыя сведкі, смерць за горадам, адданне Езуса і Стэфана Богу Айцу, прабачэнне пераследавальнікам. Культ гэтага святога бярэ свой пачатак з IV стагоддзя.

**27 снежня – дзень святога Яна, апостала.**
Рыбак, ён быў улюбёным вучнем Езуса. Стаў сведкам перамянення Пана і Яго малітвы ў Садзе Аліўным. Падчас Апошняй Вячэры туліўся да грудзей Збаўцы. Паміраючы на крыжы, Пан Езус аддаў яму ў апеку сваю Маці. Ён – адзіны з Апосталаў, хто памёр сваёй смерцю каля 100-га г. Ян з'яўляецца аўтарам Евангелля, трох Лістоў, а таксама Апакаліпсіса. Сваім Евангеллем святы Ян дапаўняе іншыя і найбольш глыбока перадае Божыя таямніцы. Ва Усходнім Касцёле св. Яну надалі тытул Тэолага. У хрысціянскай іканаграфіі сімвалам св. Яна з'яўляецца арол. Адно з паданняў кажа, што св. апостал Ян выпіў атручанае віно, якое, аднак, не зашкодзіла. На ўспамін гэтага цуду ў касцёлах асвячаюць віно.

**31 снежня – Свята Святой Сям'і.**
Святая Сям'я з'яўляецца найдасканалейшай сям'ёй і прыкладам для нас, нашых сем'яў. Св. Юзаф – выдатны прыклад для кожнага бацькі: працавіты, разважлівы, закаханы ў сям'ю, адданы дому. Найсвяцейшая Панна Марыя з'яўляецца ідэалам найлепшай маці. А Езус – непараўнальны Сын, Які, будучы Богам, быў паслухмяны Бацькам і шанаваў кожнае Іх слова.

## На снежань прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**2 снежня** – дзень нараджэння адзначае **а. Сяргей Мацюшонак OFMCap** *(Віцебск)*;
**4 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вацлаў Суткоўскі SAC** *(Расоны)*;
**6 снежня** – імяніны адзначаюць **кс. Мікалай Ліпскі** *(Новалукомль)*, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*;
**7 снежня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **біскуп Юрый Касабуцкі**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі, **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*;
**11 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*, імяніны адзначае **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*;
**14 снежня** – імяніны адзначае **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;
**16 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*;
**17 снежня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Марэк Пасют OFMCap** *(Бярозаўка)*;
**24 снежня** – імяніны адзначае **кс. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*;
**25 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*;
**26 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Леанід Мозгель** *(Павяцце)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***

# Святы, перад якім на каленях стаяў біскуп

## Святы Хуан Дыега (1474-1548)




Навукоўцы-астраномы на Яе плашчы, аздобленым зоркамі, знайшлі дакладнае адлюстраванне зорнага неба з XVI стагоддзя! Даследчыкі выявы не маглі пацвердзіць, што Яна намаляваная, а таксама адказаць на пытанне, якім чынам з'явілася. У Яе вачах на выяве іншыя вучоныя ўбачылі фатаграфічны адбітак чалавека на каленях. А даследчыкі самога плашча ў адзін голас сцвярджаюць, што ён зроблены з біяматэрыялу і не павінен быў захавацца даўжэй за 20 гадоў, а стаўся рэліквіяй, якая існуе больш за 450 гадоў!

Гэты абраз Святой Марыі, калі яго можна назваць абразом, з'яўляецца вялікай хрысціянскай святыняй Мексікі і ўсяго каталіцкага свету. Як толькі людзі чуюць слова "Гвадэлупа", адразу ўяўляюць постаць Маці Божай з цудоўнага плашча Хуана Дыега.

Хуан быў звычайным індзейцам з племені Ацтэкаў. Належаў да найбяднейшага грамадскага саслоўя. Ён адным з першых ад францішканскіх місіянераў прыняў веру ў Хрыста. Перажыў сапраўднае глыбокае навяртанне. Ужо немалады, ён з руплівасцю хадзіў два разы на тыдні на святую Імшу. Яго не спыняла неабходнасць шматкіламетровага пераходу па гарыстай мясцовасці.

Аднойчы Хуан на ўзвышшы ўбачыў постаць жанчыны ў блакітным плашчы, якая назвалася: "Святая Марыя Дзева, Маці сапраўднага Бога". Яна прасіла, каб на гэтым месцы збудавалі святыню ў яе гонар.

Безумоўна, расповеду Хуана не вельмі верылі і францішкане, і мясцовы біскуп. З недаверам пастыры папрасілі, каб Хуан, калі яшчэ раз аб'явіцца яму Маці Божая, папрасіў у Яе знак, цуд на пацвярджэнне сваёй просьбы.

Маці Божая выслала Хуана на гару, на якой у такую пару году і пры такім надвор'і нічога не расло, бо нічога не можа расці зімой у гарах на абледзянелай зямлі. Хуан атрымаў заданне набраць пастырам кветак, якія знойдзе. І сапраўды, ён знайшоў неймавернай прыгажосці



ружы, якіх назбіраў у свой плашч. Біскуп і місіянеры былі здзіўленыя такой прыгажосцю, але яшчэ іх больш уразіла выява Маці Божай, якая праявілася на плашчы Хуана. Некаторы час усе прысутныя ў трымценні, на каленях маліліся перад Ёй, а пазней перанеслі плашч у капліцу.

Гэты цуд і выява Маці Божай прычыніліся да хуткай евангелізацыі Мексікі. Штогод з 9-га па 12-га снежня да абраза Маці Божай з Гвадэлупы прыходзіць 5-6 мільёнаў пілігрымаў. А за ўвесь год іх колькасць узрастае ў тры разы – да 15 мільёнаў!

*а. Андрэй Сідаровіч MIC, Расіця*

# Сястра Антонія Тарноўска: "Я пайшла ў манахіні і ніколі пра гэта не пашкадавала"



**Сястра Антонія Тарноўска ўжо больш за дзесяць гадоў працуе ў Беларусі. Амаль увесь час яна апякуецца старымі і хворымі людзьмі. У мінулым месяцы біскуп Алег Буткевіч асвяціў капліцу святога Яна Божага ў віцебскім Доме для састарэлых і інвалідаў. Сястра Антонія не толькі працуе тут з хворымі людзьмі, але шмат зрабіла для паўстання гэтага храма. "Каталіцкі Веснік" сустрэўся з сястрой Антоніяй падчас асвячэння капліцы, каб задаць ёй некалькі пытанняў.**

**– Напачатку скажыце, як Вы патрапілі ў Беларусь?**

– Я марыла паехаць працаваць на Усход, як толькі з'явілася такая магчымасць, калі ў дзевяностым годзе ад нас туды накіраваліся першыя сёстры. Я тады таксама напісала сваё першае пісьмо да нашага кіраўніцтва, выказала жаданне туды паехаць. Але не атрымлівалася. Працавала больш за сямнаццаць гадоў у такіх дамах, як гэты, з дзецьмі займалася. Я заўсёды адчувала патрэбы хворых.

І вось у 2006 годзе ў мяне нарэшце атрымалася патрапіць у Беларусь, і я ад самага пачатку сваёй працы стала сюды прыходзіць, у гэты Дом састарэлых і інвалідаў. Напачатку ў мяне ўзнікла моўная праблема: бабулі хацелі, каб я да іх прыходзіла, але яны не разумелі мяне, а я іх не разумела. Але мова любові ўніверсальная, і мы паступова сталі разумець адно аднаго. Мяне ніхто адмыслова мове не вучыў, жыццё само навучыла.

Я стала сюды прыходзіць у той час, калі ксёндз Алег Буткевіч, цяперашні біскуп, быў тады тут пробашчам. Мы з ім прыязджалі, маліліся, была Імша, і ружанец адмаўлялі, і споведзь была. Я рыхтавала тут людзей да прыняцця сакраманту хросту, да Першай Камуніі. Нават год таму тут пахрысцілі дзвюх жанчын, айцец Станіслаў Памыкала іх хрысціў. Таму для мяне гэта месца вельмі блізкае, як і ўсе такія дамы, што я адведваю.

Падобны дом я наведваю зараз у Рубе. Калі раней у Лынтупах працавала, то таксама наведвала такі дом. Самае галоўнае, каб чалавек, які ўжо блізка да Бога, блізка да смерці, ведаў, што яму рабіць, каб патрапіць у неба. Бо некаторыя людзі вераць з дзяцінства і ведаюць, што трэба рабіць, а некаторыя наогул нічога не ведаюць. І ім трэба растлумачыць, што Бог ёсць, што Ён нас любіць, што трэба каяцца перад Богам, дараваць іншым людзям іх правіны, калі яны некалі зрабілі нам нейкую крыўду. Я гэтым людзям заўсёды кажу: як гэта зробіце, то патрапіце ў неба.

Маліцеся сваімі словамі да Бога, даруйце іншым – і пойдзеце ў неба, там тады ўбачымся. Асабліва жанчынам заўсёды кажу, што як сустрэнемся ў небе, то ў іх там ужо не будзе зморшчын, бо для жанчын гэта вельмі важная рэч. Кажу ім, што будзем танцаваць у небе, бо там заўсёды радасць. І жанчыны тады пачынаюць усміхацца, і ў іх душах пасяляецца нейкая надзея.

**– У чым заключаецца Ваша праца ў гэтым доме-інтэрнаце?**

– Я сюды прыязджаю два разы на тыдзень, адведваю ўсіх тых, хто лічыць сябе католікам і хто хоча маліцца з намі ў гэтай капліцы. Наведваю таксама і тых, хто не можа сам пайсці ў капліцу. Бывае, з кім сяджу і доўга, а бывае, заходжу хаця б на некалькі хвілін, каб прытуліць чалавека, па руцэ пагладзіць, сказаць яму, што Бог яго любіць. Каб ён не баяўся, каб ведаў, што неба адкрытае, і ён можа туды патрапіць.

**– Гэта важна для чалавека, на Вашу думку?**

– Гэта вельмі важна, бо гэта апошні момант жыцця чалавека. І яго трэба да гэтага падрыхтаваць. У гэтым доме ёсць таксама і маладыя інваліды. Да іх стараюся давесці, каб яны шукалі сваё месца, што Бог іх таксама любіць. Ім варта адшукаць сэнс у гэтым жыцці, пачаць пісаць вершы ці займацца нейкім рамяством, каб не сядзець проста так. Бо старыя ўжо не могуць зрабіць шмат: пасядзяць на ложку, памоляцца, нешта зробяць каля свайго месца, і для іх гэта дастаткова. А маладыя людзі павінны нешта рабіць. Тут ёсць такія, што займаюцца мастацтвам або спортам, а ёсць і тыя, што сядзяць і не ведаюць, чым заняцца. Я ім заўсёды гавару, каб шукалі сваё месца ў жыцці, бо Бог іх не пакінуў. Трэба толькі знайсці сваю мэту, а не толькі сядзець, напрыклад, у інтэрнэце. Гэтага мала, трэба шукаць сваё месца ў грамадстве.

**– Шмат што ў капліцы зроблена дзякуючы таму, што Вы знайшлі на гэту справу спонсараў. Цяжка было іх знайсці?**

– Ведаеце, для такой справы спонсараў знайсці не так цяжка. Бо я, калі наведвала Польшчу, прасіла ў парафіях, каб мне людзі ахвяравалі грошы, прасіла там і ў мясцовай улады, і людзі адгукаліся. У братоў-баніфратраў я папрасіла, каб яны ахвяравалі мне абраз святога Яна Божага для гэтай капліцы. Яго зрабіў айцец Міхал, дамініканін, што працаваў у парафіі Святой Барбары. І таксама ён зрабіў праект вітражоў, што змешчаныя ў гэтай капліцы. Мне заставалася знайсці мастака, каб ён праект увасобіў у жыццё. І я яго таксама знайшла, як і грошы для аплаты працы.

Скажу так: калі чалавек ведае, што ты просіш у яго грошы не для сябе, не ў сваю кішэню, а для дабра іншых людзей, то ён іх заўсёды дасць.



**– Адразу ўдалося знайсці агульную мову з кіраўніцтвам гэтага дома?**

– Я сюды першы раз прыйшла ў 1996 годзе. І раней сёстры прыходзілі, але не так часта. Я лічу, што ў мяне і па адукацыі, і па душэўным памкненні ёсць гэта харызма – дапамагаць хворым людзям.

Напачатку да мяне ставіліся па-рознаму, але калі ўбачылі, што людзі пасля маіх візітаў адчуваюць сябе лепш, яны становяцца больш спакойнымі, то сталі ўспрымаць мяне вельмі станоўча.

І калі я сюды зноў прыехала пасля трохгадовага перапынку, бо працавала ў гэты час у Лынтупах, то ўсе радаваліся: і хворыя, і персанал, і кіраўніцтва таксама.

Новы дырэктар гэтай установы Святлана Станіславаўна Саннікава мне вельмі дапамагла.

**– Звычайна людзі нешта робяць для сваёй карысці, для грошай, для славы. А Вы выбралі шлях служэння хворым, нямоглым людзям. Чым Вы кіраваліся ў гэты час?**

– Гэта пакліканне ад Бога. Каб ісці ў кляштар, каб служыць людзям. Мяне ў дзяцінстве вучыла адна манахіня, вучыла маліцца, каб распазнаць сваё пакліканне. А я ў душы гаварыла, што не хачу быць манахіняй, хачу мець мужа, але ў той жа час хачу, каб было шмат пакліканняў.

Пасля школы я паступіла ў палітэхніку, але Бог у маёй душы паціху рабіў сваю справу. І наступіў той момант, калі я зразумела, што трэба ісці ў кляштар, што гэта маё месца. І я пакінула сваё ранейшае жыццё і пайшла ў манастыр, і ніколі пазней пра гэта не шкадавала. Вядома, гэта не значыць, што ў мяне не было нейкіх перажыванняў, крызісаў, але я заўсёды ведала, што я на сваім месцы ў жыцці. І большую частку свайго манаскага жыцця, а гэта ўжо больш за трыццаць сем гадоў, я працавала з хворымі.

Працавала і з дзецьмі ў дзіцячым садку, у школе, але ўсё ж больш з хворымі людзьмі. Гэта і ёсць маё пакліканне. Пра гэта ведае кіраўніцтва нашай манаскай супольнасці, таму мне і прапануюць такую працу.

*Гутарыў* ***Зміцер Лупач***



## Віншуем!



*11 лістапада гадавіну святарскага пасвячэння адзначыў **ксёндз Сяргей Сурыновіч**.*

*Шаноўны кс. пробашч Сяргей! Дзякуем Вам за тое, што вядзеце нас па дарозе жыцця з Панам Богам, за аддану працу, за малітвы і казанні, за добрае сэрца! Жадаем плёну на святарскім шляху, каб заўсёды Вас атуляла Божая ласка і Міласэрнасць, а Дух Святы каб спадарожнічаў на ўсіх Вашых шляхах! Бясконцай крыніцы энергіі, моцнага здароўя! Мы памятаем Вас у сваіх малітвах!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Друі***

## Хвала Хрысту!



*Шаноўны **ксёндз Яўген**! Віншуем Вас з нагоды імянін (30 лістапада).*

*Хай добры Бог адорвае Вас сваім святлом і патрэбнымі ласкамі, Дух Святы хай натхняе на плённую і доўгую святарскую службу, а Марыя няхай ахінае любоўю, ласкай і пяшчотай!*

*Дзякуем за цудоўныя казанні, за тое, што нясеце святло веры, вучыце любіць Бога і Панну Марыю, за адкрытае сэрца!*

***Вернікі капліцы Божай Міласэрнасці, аг. Навасёлкі (Лучайская парафія)***

## Хвала Хрысту!



*Шаноўны **ксёндз Мікалай**! Віншуем Вас з Днём святога Мікалая (6 студзеня). Жадаем Вам поспехаў у Вашай нялёгкай працы! Няхай дапамагаюць Вам у гэтым Пан Бог і Панна Марыя, а заступнік – святы Мікалай – хай спрыяе ў ажыццяўленні ўсіх мараў і задум! Усяго Вам самага добрага! Мы памятаем Вас у сваіх малітвах!*

***Вашыя былыя вернікі, у сэрцах якіх Вы засталіся. а.г. Навасёлкі (Лучайская парафія)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Ад шчырага сэрца віншуем пробашча – **ксяндза-каноніка Дзмітрыя Барылу** – з нагоды дня нараджэння (23 кастрычніка)!*

*Няхай Усемагутны Бог асвеціць ласкай Ваш зямны шлях і адорыць моцным здароўем! Зычым вялікай радасці на кожны дзень і нястомнай апекі Маці Божай на доўгія і шчаслівыя гады пастырскага служэння!*

*Дзякуем за Вашу працу, за клопат пра дзяцей, пра моладзь і пажылых людзей, за адкрытае сэрца, поўнае святой любові, за жаданне дапамагчы.*

***Хай сэрцы нашы б'юцца***
***Ва ўнісон сугучна з Вашым,***
***І праца Ваша дасць тады багаты плён.***
***Хай адудзячыць Бог за ўсе труды,***
***За рупнасць для Касцёла,***
***Ды шырыцца няхай***
***Сяброў адданых кола!***

***З павагай, парафіяне, законныя сёстры, міністранты і калектыў хору касцёла Маці Божай Ружанцовай і Св. Дамініка, в. Ракаў (Валожынскі р-н, Мінская вобл.)***

## Віншуем!



*Шаноўнаму **ксяндзу Мікалаю Ціхановічу**, які 6 снежня адзначае Дзень імянінаў, дасылаем найлепшыя пажаданні. Жадаем Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай на кожны дзень, дароў Духа Святога, моцнага здароўя, радасці і супакою.*

***Францішканскі закон свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў (Гродзенская дыяцэзія)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз Анджэй Бульчак**!*

*З Днём Анёла віншуем Вас сардэчна! Шчыра вітаем і дзякуем Вам за самаадданую святарскую працу на чашніцкай зямлі!*

*Мы вельмі ўдзячныя Пану Богу за нашага былога ксяндза-пробашча, які ў такіх складаных умовах здолеў пабудаваць наш касцёл, за выхаванне, за развіццё і навучанне моладзі, за штодзённы клопат пра парафіян, за памяць і дапамогу! Вернікі нашай парафіі ніколі не забудуць тую дабрыню, цеплыню і павагу, з якімі Вы ставіліся да кожнага з нас, дарагі і паважаны наш ксёндз Анджэй! Праз Слова Божае, праз малітву і ўласны прыклад Вы набліжалі нас да веры і да Бога, дзяліліся радасцю і дабром. Духоўна мы яднаемся з Вамі, памятаем пра Вас і заўсёды падтрымліваем!*

*Шчыра жадаем, шаноўны ксёндз Анджэй, каб і надалей Вашае Божае слова кранала душы людзей, рабячы іх добрымі, чыстымі, шчырымі і міласэрнымі! Няхай сонечныя промні бязмежнай Божай міласэрнасці асвячаюць кожны дзень Вашага святарскага жыцця, надаюць сілы і моцы для ажыццяўлення новых планаў і задумак на карысць Богу, людзям і Каталіцкага Касцёла! Хай Анёл-ахоўнік аберагае Вас і дапамагае ў такой цяжкай справе, як пабудова новага касцёла на пастаўскай зямлі.*

*Божага блаславення і вялікага плёну на ніве духоўнага адраджэння беларускай зямлі і каталіцкай веры!*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, вернікі Касцёла Перамянення Пана (г.Чашнікі)***

## Дзякуем і віншуем!



*Ужо чацвёрты год у нашай парафіі святых Пятра і Паўла працуе пробашчам **ксёндз Генадзь Ляўкоў**. Мы вельмі рады, што нам так пашчасціла, і дзякуем Пану Богу за гэта. Сваімі адносінамі да людзей, казаннямі падчас св. Імшы наш святар прыцягвае людзей да Бога. Кожнае яго казанне, абвешчанае Божае слова мы захоўваем у сваіх сэрцах і кіруемся ім у жыцці.*

*Шмат зроблена таксама для ўпрыгожання касцельнай тэрыторыі. Ужо ўсталяваная падсветка, што сінімі агеньчыкамі асвятляе крыжы на вежах касцёла і радуе вочы і сэрцы мінакоў у начны час. Гэта зроблена дзякуючы дапамозе мясцовай улады, у прыватнасці, дырэктара саўгаса "Відзаўскі" Юрыя Уладзіміравіча Трыдзенскага. Ад імя ўсіх парафіян дзякуем яму, што не пакідае без увагі нашу агульную святыню.*

*19 лістапада ў нашага пробашча Генадзя Ляўкова – Дзень нараджэння. Сардэчна віншуем яго, дзякуем і нізка кланяемся за чалавечнасць, адкрытасць і вялікую адданасць у імя святой справы! Жадаем моцнага здароўя, Божай ласкі, апекі Маці Божай! Мы заўсёды будзем памятаць пра Вас у сваіх малітвах! Будзьце заўсёды з намі!*

*Няхай Добры Бог блаславіць бацькоў ксяндза, якія далі яму жыццё і выхавалі для нас цудоўнага святара!*

***Удзячныя парафіяне, в. Дрысвяты (Браслаўскі р-н)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Шчыра віншуем **ксяндза Уладзіслава Лазара** з Днём нараджэння! 27 лістапада ён адзначае юбілей – 50 гадоў!*

*Мы вас вельмі паважаем, шаноўны ксёндз Уладзіслаў, цэнім і дзякуем Богу, што па Яго добрай Волі тры гады таму Вы з'явіліся ў жыцці кожнага з нас, у лёсах усіх тых людзей, клопат пра вырatаванне душаў якіх Вы несяце ў сваім сэрцы.*

*Мы шчыра і ад душы дзякуем за тыя моманты, за той час, які Вы аддаяце ўсім, хто гэтага так патрабуе, за Вашыя мудрыя парады, за чуласць і спагадлівасць, за кранальную ўвагу да ўсіх нашых спраў і праблем, за цярплівыя навучанні, за Вашыя малітвы!*

*Хочам падзякаваць таксама Вам за тое, што сваім прыкладам веры Вы запальваеце ў нашых сэрцах агонь любові да Айца Нябеснага! Стараецеся, каб мы як мага лепей зразумелі Слова Божае і, выходзячы з касцёла, заўсёды адчувалі супакой і адзінства ад шчырай і сумеснай малітвы.*

*Мы цэнім Вашу дзейную энергію, Вашыя выдатныя здольнасці, Ваш талент, харызму, індывідуальнасць! Шчыра дзякуем за вялікую працу ў нашай святыні!*

*Дай, Бог, Вам моцнага здароўя, мудрасці, сіл. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены цеплынёй, радасцю, дабрынёй, моцай, любоўю і надзеяй, хай вера з кожным днём толькі ўзмацняе, а ўсё, што было запланавана, няхай здзяйсняецца з дапамогай Бога і добрых людзей!*

*Няхай душпастырская праца прыносіць шчодры плён, а наша малітва хай будзе падтрымкай у складаныя моманты!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святых Пятра і Паўла ў в.Камень (Валожынскі р-н)***

## Віншуем!



*Сардэчна віншуем нашага паважанага пробашча **ксяндза Станіслава Мжыглуда** з нагоды Дня нараджэння, які ён адзначыў 13 лістапада!*

*Дасылаем свае віншаванні і самыя шчырыя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус, Якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая Валадарка Азёраў хай атуляе Вас сваёй любоўю і апекай, дапамагае ў нялёгкай службе на Божай ніве! Жадаем плёну ў працы на карысць парафіі, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сілаў, заўсёды ўсмешкі на Вашым твары!*

***Вернікі Санктуарыя Маці Божай Валадаркі Азёраў***

## Хвала Хрысту!

*Ад усяго сэрца дасылаем віншаванні з нагоды Дня нараджэння **ксяндзу Андрэю Далянскаму**, які служыць у парафіі Святой Тройцы ў Касцюковічах! Жадаем яму моцнага здароўя, сілы, радасці, Божых ласкаў на кожны дзень, шчодрых дароў Духа Святога і апекі Маці Божай!*

*Нізкі паклон Вам, шаноўны ксёндз Андрэй, за дабрыню, малітву, спагаду, за разуменне і падтрымку.*

***З павагай, сем'і Іртовых і Шылько***

**Адказы на тэст, змешчаны на стар. 9**

**1 – А; 2 – Б; 3 – Б; 4 – В; 5 – А; 6 – А; 7 – Б; 8 – А.**

# Як узяць шлюб, калі нарачоны – пяцідзясятнік?



*"Хвала Хрысту! Дапамажыце вырашыць сітуацыю. Я кахаю маладога чалавека, мы хочам ажаніцца. Але справа ў тым, што я каталічка-практык, а ён практык-пяцідзясятнік. Для таго, каб узяць шлюб у яго царкве, мне трэба прыняць хрост (яшчэ раз, атрымліваецца) праз поўнае акунанне ў ваду. Шлюб не можа быць здзейснены ў касцёле таму, што мой малады чалавек мае дар і жаданне прапаведаваць Слова Божае ў царкве з амбоны. Касцёл такой магчымасці не дае. Таксама, узяўшы са мною шлюб у касцёле, ён будзе мець заўвагі ў сваёй царкве і не зможа выканаць жаданае. Не зможа ўдзельнічаць у хлебапрыламленні.*

*Ці будзе маё чарговае хрышчэнне сведчыць пра змену мной канфесіі? Ці можна знайсці які-небудзь кампраміс у гэтай сітуацыі? Ці буду я мець магчымасць пасля шлюбу ў пяцідзясятніцкай царкве прымаць Цела Хрыста і спавядацца?"*

*Ганна*

**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач SP, піяр з Ліды:**

– Хвала Хрысту! Дзякую Вам за пытанне! Сапраўды, справа мае шмат нюансаў. Паспрабую растлумачыць як мага больш коратка і зразумела.

### Змешаны шлюб у Каталіцкім Касцёле

Ад Вашага нарачонага (які, напэўна, ахрышчаны) будзе патрэбная згода выхавання дзяцей у каталіцкай традыцыі. Ён не павінен перашкаджаць Вам спаўняць свае рэлігійныя абавязкі. Яму неабавязкова пераходзіць на каталіцкае веравызнанне. Шлюб каталічкі і пяцідзясятніка ў касцёле будзе змешаным сужэнствам. Трэба прыйсці да свайго пробашча, і ён растлумачыць, як будзе выглядаць падрыхтоўка да шлюбу і якія патрэбны дакументы. Нарачоны (пяцідзясятнік) заахвочвае хадзіць на заняткі перад шлюбам у сваю рэлігійную супольнасць. Калі б ён захацеў хадзіць з каталічкай на катэхезу, то гэта толькі ўхваляецца. Шлюб у падобнай сітуацыі можа адбыцца па-за святой Імшой. Канешне, падчас шлюбу Ваш нарачоны не зможа абвяшчаць Слова Божае (як гэта чыніць у сваёй супольнасці пяцідзясятнікаў), бо не з'яўляецца дыяканам ці святаром каталіцкага веравызнання.

### Змешаны шлюб у Царкве Пяцідзясятнікаў

Вы як ахрышчаная каталічка можаце заключыць шлюб у Царкве Пяцідзясятнікаў, якая з'яўляецца т.зв. Свабоднай Пратэстанцкай Царквой. Вам перад шлюбам трэба будзе абавязкова прыступіць да сакраманту пакаяння і прыняць Св. Камунію ў касцёле. Хрост для католікаў (праз паліванне галавы св. вадой ці праз акунанне) з'яўляецца сакрамантам, бачным знакам нябачнай ласкі, а не толькі знакам сувязі Хрыста з Касцёлам (як у пяцідзясятнікаў). І таму гэты сакрамант прымаецца раз у жыцці. Вы ўжо ахрышчаная ў імя Бога Айца, і Сына, і Духа Святога! Вы – хрысціянка, і таму няма сэнсу Вам прымаць "хрост праз акунанне". Калі Вы вырашыце ўсё ж такі прыняць "хрост праз акунанне" ў пяцідзясятнікаў і такім чынам увайсці ў іхнюю супольнасць, то гэта ўжо будзе свядомае дзеянне – публічнае адрачэнне ад каталіцкага веравызнання, адсутнасць павагі і пагарда да прынятага ўжо сакраманту хросту. Вы ўжо не зможаце ў Касцёле дзейсна прыступаць да сакрамантаў Пакаяння і Св. Камуніі. Гэта цяжкі грэх. Таму як каталічка, не выракаючыся хросту і свайго веравызнання, Вы зможаце заключыць змешаны шлюб з пяцідзясятнікам у іх царкве. Трэба пра гэта паразмаўляць з пастырам супольнасці.

### Што для гэтага трэба?

Калі Вы ўжо вырашылі, што заключыце змешанае сужэнства ў царкве пяцідзясятнікаў, то каталічка фармальна праз свайго ксяндза-пробашча павінна звярнуцца да біскупа-ардынарыя, каб ён удзяліў дыспенсу (г.зн. звальненне) ад захавання кананічнай формы заключэння сужэнства. Каталічка мусіць прадставіць дыяцэзіяльнаму біскупу сур'ёзную прычыну і абгрунтаваць, чаму яна хоча заключыць сужэнства па-за кананічнай формай, устаноўленай у Каталіцкім Касцёле. Пасля атрымання дыспенсы Вы можаце заключыць шлюб са сваім нарачоным у царкве пяцідзясятнікаў. Вельмі важна, каб цырымонія мела менавіта публічны характар (у прысутнасці прынамсі двух адпаведных сведкаў), а таксама, каб была сапраўдным актам заключэння сужэнства – трывалага і адзінага (а не толькі бласлаўленне саюзу).

Маю надзею, што гэтыя тлумачэнні крыху праясняюць Вашу сітуацыю і дапамогуць прыняць правільнае рашэнне. Экуменічны Дырэкторый, апублікаваны Ватыканам, заахвочвае, каб у катэхетычнай падрыхтоўцы нарачоных да заключэння змешанага сужэнства, наколькі гэта магчыма, прымалі ўдзел каталіцкі святар і пастар. Спадзяюся, што такая форма дазволіць Вам адпаведна падрыхтавацца да ўрачыстасці.

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны **ксёндз-пробашч Алег Півавар**! Шчыра віншуем Вас з Днём народзінаў (6 лістапада) і з заўсёды памятнаю для Вас урачыстасцю святарскага пасвячэння (12 лістапада)!*

*Мы ўдзячныя Вам за малітоўную падтрымку, за такія павучальныя, разумныя, патрэбныя для нашых душаў і сэрцаў казанні.*

*Хочам пажадаць Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, вялікага зямнога шчасця, здзяйснення ўсіх мараў і задумак, апекі Маці Божай у кожнай справе і Божага блаславення!*

***Парафіяне касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Ваўкалаце***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаем пяшчотныя словы віншавання і вялікай удзячнасці нашаму былому пробашчу **ксяндзу Алегу Півавару**, які 6 лістапада адзначыў дзень нараджэння.*

*Паважаны ксёндз Алег! Сардэчна віншуем Вас з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці ў працы на нялёгкай ніве святарства, добразычлівых людзей побач. Няхай Дух Святы апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус няхай заўсёды будзе Вашым сябрам, а Панна Марыя нястомна моліцца за Вас перад Божым тронам і прытуляе да сэрца з мацярынскай любоўю!*

*Мы дзякуем Богу за дар Вашага жыцця, шаноўны ксёндз Алег! Усе парафіяне былі шчаслівыя мець у нашым касцёле такога мудрага, энергічнага і працавітага святара. Многа сіл і здароўя пробашч уклаў у жыццё нашай парафіі, каб усе мы былі адной вялікай сям'ёй, каб па-сапраўднаму адчулі сілу малітвы, зразумелі Божае слова, праз якое Вашымі вуснамі Пан Бог гаварыў з намі. Пасля Імшы мы выходзілі з касцёла з прыўзнятым настроем, заўсёды адчувалі ў сэрцах супакой і еднасць ад шчырай малітвы.*

*11 гадоў Вашай святарскай дзейнасці былі прысвечаны высакародным справам. Вы, ксёндз Алег, паказалі сапраўдны прыклад адданага служэння Богу і людзям, шмат зрабілі, каб парафіяне захавалі веру ў сваіх сэрцах і пранеслі яе праз усё жыццё.*

*Мы любім Вас, дарагі ойча, і чакаем у госці ў любы час! Мы будзем вельмі рады!*

***Данута Голубева, ад імя ўсіх вернікаў парафіі св. Айца Піо ў Лёзне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Чытала ў газеце "Каталіцкі Веснік" артыкул пра святога Францішка. І не паспела дачытаць, як са мной нешта здарылася! Як штосьці ў душы перавярнулася, нешта дрэннае прапала, а стала лёгка і спакойна! Гэта святы зрабіў, несумненна, і вочы мае сталі лепшымі (я дрэнна бачу адным вокам, а другое амаль нічога не бачыць).*

***Дзякуй Вам, Аксана, за напісанне артыкула.** Я ведала, што ёсць такі святы. Дзякую Пану Богу за святога, які мне дапамог!*

***Альдона Сіўко***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі:**

**Валянціна Рыбак** *(Гомель)*, **Генадзь Бервячонак** *(Прусы)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Эмма Козел** *(Докшыцы)*, **Галіна Каспярэвіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Бугаева Э.Н.** *(Лынтупы)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Вацлава Савіцкая** *(Глыбокае)*, **Галіна Глушкевіч** *(Віржы)*, **Стэфанія Шылько** *(Глыбокае)*, **Аліна Гайлеўская** *(Леамполле)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ядвіга Кавалёнак** *(Васількова)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Генадзь Маркоўскі** *(Маладзечна)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Міхайлоўская Л.К.** *(Мураваная Ашмянка)*, **Эмілія Пашкевіч** *(Бігосава)*, **Віталь Рагоўскі** *(Браслаў)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Эмма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Антон Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Тэрэса Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Ганна Жылевіч** *(Зыгмунцішкі)*, **Гэлена Мікша** *(Зыгмунцішкі)*, **Святлана Сакалоўская** *(Камень)*, **Сафія Чырвінская** *(Язні)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Яўгенія Чарняўская** *(Парубкі)*, **Ганна Барысевіч** *(Глыбокае)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выданне кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Ці варта ўжываць у беларускай мове спалучэнне сметанковае масла?

**У штодзённай моўнай практыцы мы нярэдка сутыкаемся са спалучэннем *сметанковае масла*. Найчасцей гэта бывае, напэўна, у краме, калі хтосьці, хто карыстаецца беларускай мовай у побыце, купляе адпаведны прадукт.**

■ Юрась Бабіч, *кандыдат філалагічных навук*

Такая канструкцыя нібыта служыць для размежавання сэнсу розных паняццяў: масла як "харчовага тлушчу, што атрымліваюць збіваннем смятанкі або смятаны", і масла як "тлустага рэчыва, якое здабываюць з мінеральных рэчываў" ("Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" – Т. 3. – Мінск, 1979, с. 117). Але калі больш-менш уважліва прааналізаваць асаблівасці слоўнікавага складу нашай мовы, улічыць традыцыю выкарыстання адпаведных лексем і канструкцый, то адназначна можна сцвярджаць, што спалучэнне *сметанковае масла* – гэта проста калька з рускага *сливочное масло*, значыць, нехарактэрнае для нашай мовы з пункту гледжання яе культуры. І ў вуснай штодзённай практыцы, і ў фальклорных тэкстах, у мясцовых гаворках беларусы заўсёды карысталіся назоўнікам **масла**, які не патрабуе пры сабе ніякага азначэння ў выглядзе прыметніка. Гэта і ёсць нарматыўная назва папулярнага і важнага прадукту. Прыгадаем тут меркаванне выдатнага знаўцы роднага слова прафесара П. Сцяцко, які слушна заўважае, што "штучнымі ёсць і двухслоўныя найменні *кароўе масла, жывёльнае масла*. Яны з'явіліся ў выніку калькавання адпаведных расійскіх назоваў – *коровье масло, растительное масло*. Аднак беларуская мова мае тут аднаслоўныя найменні" (Сцяцко П. Культура мовы. – Мінск, 2002, с. 180). Таму для абазначэння тлушчавага рэчыва, атрыманага з расліннай сыравіны, у нашай мове заўсёды ўжывалася слова **алей**. Рэчыва ж, якое мае тэхнічнае прызначэнне, заліваецца, напрыклад, у рухавік аўтамабіля, называецца **аліва**. Гэта, дарэчы, засведчыў і выдадзены ў 1997 годзе "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С. Судніка і С. Чыслава: "машинное масло – аліва, машынная аліва" (с.94), і зафіксаваў акадэмічны "Слоўнік беларускай мовы" (Мінск, 2012, с. 73).




Таму па-беларуску правільна было б сказаць, напрыклад, *"Купі пачак **масла** і бутэльку **алею**, а я паеду на рынак і набуду **алівы** для аўтамабіля"*. І зусім не варта карыстацца паняццямі *сметанковае* і *раслiннае масла*, паколькі гэта штучныя элементы ў нашай лексіцы. Бо ў свядомасці носьбітаў беларускай мовы па-свойму структуруюцца веды пра свет, пра навакольнае асяроддзе, інакш, чым у тых, для каго роднай з'яўляецца руская мова. І гэтую адметнасць ніяк нельга страціць.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**26 лістапада 2017 г.**

***Мц 25, 31-46***

Урачыстасць Хрыста Валадара Сусвету замыкае кола літургічнага году. Ад мінулагодняга Адвэнту, калі мы чакалі нараджэнне Месіі і перажывалі чаканне канца свету, праз час Вялікага Посту і Велікоднай перамогі Хрыста, калі мы навярталіся і разважалі пра планы Езусавай Пасхі ў нашым жыцці, ішлі дарогай гісторыі збаўлення і акуналіся ў таямніцы нашай веры. Нарэшце мы стаім перад тронам Валадара Сусвету, каб пачуць у сённяшнім Евангеллі, што Яго каралеўства – гэта каралеўства любові. Ён пытаецца ў кожнага з нас пра любоў, якая з'яўляецца выкананнем Яго волі і якая ёсць умовай: будуць ці не перад намі адчыненыя вароты да вечнага шчасця або мы будзем асуджаныя на вечнае пакаранне? Трэба памятаць: усё, што мы зрабілі або не зрабілі аднаму з малых, мы гэта зрабілі або не зрабілі Езусу. Варта сабе пра гэта часта нагадваць, каб не забыць пра еднасць Езуса з тымі, хто нас акаляе, і каб не здзіўляцца з пытання Езуса пра любоў.

*– Ці рыхтуюся я да ўласнай смерці і да сустрэчы з Валадаром, Які будзе мяне судзіць?*

*– Пра што ішла б размова з Езусам, калі б я памёр сёння?*

*– Пра якое дабро, зробленае мной сёння, учора, на мінулым тыдні, расказаў бы я з удзячнасцю Езусу?*

*– У якіх справах сёння, учора, на мінулым тыдні я не заўважыў Езуса, дзе я застаўся абыякавым, калі Яму была патрэбна мая дапамога ва ўбогім чалавеку?*

*– Якое дабро я занядбаў або адклаў на пазней?*

*– Што трэба зрабіць неадкладна?*

*– Ці не трачу я каштоўнага часу, які дадзены мне для любові?*

*– Можа, дазваляю, каб побач хтосьці галадаў?*

*– А можа, дазваляю, каб хтосьці "сох", чакаючы маёй увагі, размовы? Напрыклад, муж, жонка, дзіця, старыя бацькі і г.д.?*

*– Якіх спраў нельга больш адкладваць?*

*– Якое дабро я магу і павінен зрабіць?*

*– Як гэта я зраблю?*

*– З чаго пачну?*

*– Ці гэта мудра?*

*– Ці згодна гэта з Божай воляй?*

**3 снежня 2017 г.**

***Мк 13, 33-37***

Час Адвэнту распачынае кола літургічнага году. Першая нядзеля Адвэнту ўводзіць нас у галоўныя тэмы першай паловы перыяду – гэта падрыхтоўка да чарговага прыйсця Хрыста, каб судзіць жывых і памерлых. Бог кожнаму з нас даверыў жыццё ў акрэслены Ім час. Трэба чуваць, каб не атрымалася, што Пан паклікаў нас перад сваім тронам, а мы негатовыя. Чуванне азначае клопат пра тое, каб Божая справа, справа любові была заўсёды актуальнай і жывой у нашым жыцці, каб не было часу нелюбові і жыцця не па яе законах. Чуванне – гэта клопат, каб не затух агонь руплівасці ў выкананні волі Айца. Адвэнт – гэта час, калі мы аднаўляем у сабе свядомасць важнасці любові ў нашым жыцці. Гэта таксама час, калі разам з Касцёлам мы спяваем "Марана Тха", што значыць "Прыйдзі, Пане".

*– Ці выконваю я Божую волю сёння?*

*– Ці разумею, што павінен распазнаць і выконваць Божую волю?*

*– Ці чытаю Божае слова?*

*– Ці малюся і ці размаўляю са спаведнікам, каб зразумець, якая Божая воля адносна мяне?*

*– Ці адкрыты я на Божае натхненне?*

*– Ці разумею, што Бог лепш ведае, калі найзручнейшы час для якой справы?*

*– Ці шукаю ў Яго адказаў на такія пытанні?*

*– Ці разумею, што мая штодзённая вернасць Богу ў малых справах робіць мяне адкрытым і здольным удзельнічаць у Божым плане збаўлення свету?*

*– Ці адкрыты я на самыя нечаканыя прапановы Бога?*

*– Як я люблю сёння?*

**10 снежня 2017 г.**

***Мк 1, 1-8***

Асоба Яна Хрысціцеля рыхтуе да сустрэчы з Хрыстом не толькі ізраільцянаў. Ён з'яўляецца і нашым настаўнікам у час Адвэнту. Найперш ён вучыць нас рашучасці ў дарозе да Бога. Ён – прыклад вернасці Богу. Ён звяртае нашу ўвагу на тое, што нявернасць Богу і зло грэху – гэта перашкода, якую трэба прыбраць са свайго жыцця, каб прыняць дар Божай прысутнасці. Ян абяцаў час асаблівай ласкі, калі Езус будзе выліваць на нас Свой Дух. Мы зараз жывём у гэтым часе, калі Дух Езуса распаляе нашы сэрцы. Зараз шчаслівы час Божай прысутнасці і блізкасці.

*– Як я перажываю час Адвэнту?*

*– Ці аднаўляю свае адносіны з Богам?*

*– Ці разважаю над таямніцай Божага Нараджэння і значэннем гэтага здарэння для мяне?*

*– Ці думаю пра сваю смерць?*

*– Ці рыхтуюся да гэтай хвіліны?*

*– Ці думаю пра вечнае жыццё?*

*– Што раблю, каб не страціць неба, да якога я пакліканы?*

*– Ці рашуча я жыву сваёй верай?*

*– Ці верны я аднойчы зробленаму выбару: "Езус – мой Пан"?*

*– А можа, я ніколі не зрабіў такога выбару?*

*– Якое зло перашкаджае мне выконваць Божую волю?*

*– Як я змагаюся ў час Адвэнту са сваімі заганамі?*

*– Ці прыняў я якую-небудзь пастанову, каб умацаваць сваю волю?*

*– Якое дабро раблю дадаткова ў гэты час, каб аднавіць сваё жыццё?*

*– Ці жыву, карыстаючыся дарамі Святога Духа?*

*– Ці ведаю, што Бог прыходзіць са Сваімі натхненнямі да майго сэрца?*

*– Ці прыслухоўваюся да навукі Касцёла, да Божага слова, да свайго сумлення?*

*– Ці размаўляю пра гэта са сваім спаведнікам, каб не памыліцца?*

**17 снежня 2017 г.**

***Ян 1, 6-8; 19-28***

У Літургіі Адвэнту Касцёл успамінае тры асобы, жыццё і дзейнасць якіх звязаны з тэмамі Адвэнту: Найсвяцейшую Панну Марыю, прарока Ісаю і Яна Хрысціцеля. Ян рыхтаваў народ Божы да прыняцця Хрыста і абвяшчаў, што Езус – чаканы Месія. Ён ведаў, што з'яўляецца толькі слугой, які рыхтуе сэрцы народу, каб гэтыя сэрцы маглі прыняць Бога.

*– Ці ведаю, чаго Бог хоча ад мяне?*

*– Ці думаю пра сваё пакліканне?*

*– Для каго я павінен быць "Янам" і паказваць на Хрыста?*

*– Ці дапамагаю людзям падрыхтаваць сэрцы да сустрэчы з Богам?*

*– Ці ўмею і ці хачу заахвочваць, каб людзі прынялі Бога?*

*– А можа, я перашкаджаю людзям знайсці дарогу да Езуса?*

*– Можа, асуджаю іх і адштурхоўваю ад Бога?*

*– Можа, мае дрэнныя паводзіны замінаюць маім дзецям, сябрам знайсці Езуса?*

*– Ці не адцягваю людзей ад дарогі, якая вядзе да Езуса?*

*– Ці дапамагаю людзям "выраўняць" іх дарогі?*

*– Ці суцяшаю, ці ўмею мудра параіць, як знайсці Бога?*

*– Ці сведчу, кім з'яўляецца Езус для мяне і як Ён да мяне прыйшоў?*

*– Ці слухаю прарокаў, якіх Езус паставіў на дарозе да Яго?*

*– Ці з пашанай слухаю вучэнне Касцёла?*

*– Ці гатовы я адрачыся ад зла, якое перашкаджае мне прыняць Бога да свайго жыцця?*

*– Ці прашу Бога, каб перамяніў мяне, каб навярнуў і ўмацаваў?*

*– Ці ведаю, што святло, патрэбнае майму жыццю, – гэта Езус?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*Віцебск*

# ПАЗНАВАЙКА

**Пазнаём Хрыстаі Яго Касцёл!**

**Тэма сённяшняй "Пазнавайкі" - "Уменне дзяліцца".**

## Што кажа Папа Рымскі пра ўменне дзяліцца?

Устаў у зорачкі па парадку замест лічбаў патрэбныя літары з алфавіта. Калі выканаеш заданне, прачытаеш словы, якія сказаў Папа Францішак.

Разам з бацькамі паразважай над сэнсам гэтых слоў

А Б В Г Д Дж Дз Е Ё Ж З І
Й К Л М Н О П Р С Т У Ў
Ф Х Ц Ч Ш Ы Ь Э Ю Я




------------------------------------------------------------

------------------------------------------------------------

## Галаваломка

Перад табой таблічка,у якой па гарызанталі схаваныя 4 словы пра ўменне дзяліцца. Знайдзі гэтыя словы.

Калі знойдзеш, падкрэслі іх алоўкам.

Дапамагаць Клапаціцца Дзяліцца Аддаваць

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| К | В | Л | І | Ц | Р | А | Д | А | П | А | М | А | Г | А | Ц | Ь | М | Е | С | Ц | А |
| Р | К | Д | А | О | А | М | Ь | Д | З | Я | Л | І | Ц | Ц | А | К | А | З | А | Ц | Ь |
| Л | Ю | Б | І | Ц | Ь | Ш | А | Н | А | В | А | Ц | Ь | А | Д | Д | А | В | А | Ц | Ь |
| В | Е | Р | Ы | Ц | Ь | К | Л | А | П | А | Ц | І | Ц | Ц | А | В | Е | Д | А | Ц | Ь |

Рубрыка: «ПАЗНАЁМ СВЯТЫХ!»

## Святы Антоній Падуанскі



Святы Антоній вельмі добра прапаведаваў, быў разумным, валодаў добрай памяццю. Вялікія натоўпы збіраліся, каб паслухаць вучэнне святога Антонія. Слухачоў было так шмат, што яны часта не маглі змясціцца ў касцёле. Тады ён прамаўляў на плошчах.

Святы Антоній шмат падарожнічаў і аднойчы прыйшоў у Рыміні. Там шмат людзей адышло ад Бога. Улады горада забаранілі людзям слухаць Антонія. Горад быў сумны. Касцёлы пустыя. На рынку не было людей. Ніхто яго не вітаў.

Тады святы Антоній пайшоў да ракі і сказаў: "Прыплывіце, рыбы, слухаць Слова Божае, таму, што людзі не вартыя гэтага". Тады шмат рыбаў сабралася ў адным месцы на голас святога Антонія.

Цікаўнасць людзей была вельмі вялікай. Тады святому не давялося шмат казаць. Жыхары з сорамам і жалем вярталіся да Бога!

## Добра ці не?

Перад табою некалькі аповедаў пра ўменне дзяліцца. Прачытай іх уважліва. Паразважай над гэтымі сітуацыямі. Каля кожнага аповеду напішы словы "добра" або "дрэнна".

Дзяўчынцы Алесі падаравалі вялікую каробку цукерак, а яна схавала яе ад свайго малодшага брата пад падушку.

Леначцы бацькі падарылі на дзень нараджэння новы тэлефон. Яна пайшла на вуліцу, каб пахваліцца сяброўкам сваім падарункам. Калі адна дзяўчынка папрасіла паслухаць песню на тэлефоне, Леначка сказала ёй: "Не дам! Гэта мой тэлефон!"

Сашу бацькі купілі апельсіны і яблыкі.Калі да яго прыйшлі сябры, ён з радасцю падзяліўся з імі смачнай садавінай.

Хлопчык Міша разам з бабуляй пайшоў у лес па ягады. Яны шмат назбіралі чарніц у той дзень, але многа яшчэ засталося ў тым месцы, дзе яны былі. Вырашылі прыйсці заўтра, каб сабраць усё, што засталося. Па дарозе дамоў сустрэлі знаёмага хлопчыка Васю з бабуляй. Яны спыталі, дзе Міша назбіраў столькі ягад. А Міша паказаў Васю зусім іншае месца, дзе зусім не было чарніц.

## Знайдзі адрозненні

Саша і Алеся - брат і сястра. Яны заўсёды дзеляцца адно з адным тым, што маюць. Знайдзі на малюнку ўсе адрозненні і абвядзі іх алоўкам!



## Парада ад "Пазнавайкі"

Што табе раіць "Пазнавайка" даведаешся, калі выпішаш з табліцы па парадку толькі літары з жоўтых клетачак. Кожнае новае слова пачынаецца з вялікай літары.

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Н | к | е | і | З | а | д | б | ы | в | ы | а | й | о | ц | ф | ж | е |
| Дз | о | я | к | л | і | і | ц | ц | д | а | ф | Т | д | н | ы | у | м, |
| о | Ш | ь | т | л | о | л | о | Ў | ы | В | к | а | ч | ж | і | с | л |
| ф | о | Ё | ж | і | с | і | ь | ч | ц | ь | ы | і | к | б | ь | д | в |
| З | л | ж | і | Д | ф | к | р | л | у | ы | г | і | л | ь | м | о | і. |

------------------------------------------------------------

------------------------------------------------------------

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

